
Павел Севярынец ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Вайна і чыгунка ➔9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 34 (3041) Год LIX | Беласток, 24 жніўня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# XX Спасаўскія запусты

«Спасаўскія запусты» — вялікае, прэстыжнае мерапрыемства, арганізаванае беларусамі Бельска-Падляшскага. Юбілейныя XX «Спасаўскія запусты» асабліва ўрачыста 10 жніўня наладзілі ў гарадскім амфітэатры ў Бельску-Падляшскім і Тапчыкалах Павятовая ўправа БГКТ у Бельску, Самаўрадавае аб'яднанне «Бельская кааліцыя», Бельскі дом культуры, Аб'яднанне «Музей малой айчыны ў Студзіводах» і Гмінны асяродак культуры ў Орлі, з фінансавай падтрымкай бурмістра і Рады горада Бельск-Падляшскі, старасты і Рады Бельскага павета ды войтаў і Рад гмін Орля і Бельск-Падляшскі. Мерапрыемства адкрылі выконваючы абавязкі бурмістра Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі, бельскі віцэ-стараста Пётр Божка і старшыня ПУ БГКТ Васіль Ляшчынскі.



«Спасаўскія запусты» адкрылі (справа) выконваючы абавязкі бурмістра Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі, старшыня ПУ БГКТ у Бельску Васіль Ляшчынскі і бельскі віцэ-стараста Пётр Божка (на другім плане «Антракт» і жанчыны з Хмелева)

— У дзевяностых гадах беларуская фальклорная імпрэзы ладзіла ў Бельску Галоўнае праўленне БГКТ, а мы хацелі актывізаваць мясцовае грамадства і беларускія арганізацыі ды наладзіць беларускае мерапрыемства сваімі сіламі, без дапамогі Беластока. Гэта атрымалася і ў палове дзевяностых гадоў мы арганізавалі першыя «Спасаўскія запусты», якія добра ўспрымаюцца грамадствам. Тады бурмістрам Бельска-Падляшскага стаў Андрэй Сцепанюк (сённяшні дырэктар Бельскага беллiцэя — А. М.), які фінансава падтрымаў нашую імпрэзу. Зараз у нас шмат спонсараў і варта было б — апрача абрадаў, песень і танцаў — увесці новыя прапановы. Добра было б, каб «Спасаўскія запусты» сталі мерапрыемствам, якое разраслося б на цэлы горад. Варта было б ладзіць сустрэчы з вядомымі беларусамі, выставы мастацтва, зрабіць націск на беларускую культуру ў шырокім маштабе. Трэба больш выходзіць да маладых, звяртаць увагу на іх зацікаўленні, бо яны зараз жывуць перш за ўсё польскай культурай, — сказаў старшыня Павятовай управы БГКТ у Бельску Васіль Ляшчынскі, адзін з заснавальнікаў грамадскага руху, якім спачатку была «Бельская каалiцыя».

Тамаш Суліма з Музея малой айчыны ў Студзіводах і заадно сябра «Бельскай каалiцыі» звярнуў увагу на спадарожныя «Спасаўскім запустам» імпрэзы, што ў мінулым ладзіліся ў Бельскім беллiцэі, Студзіводскім музеі і мясцовым філіяле Падляшскага музея, якія можна было б разгортваць.

— Назву нашаму мерапрыемству вынайшаў у абрадавым календары Юрка Асеннік. Першапачатковая яго прапанова была «Спасаўскія запускі», але мы прынялі літаратурную форму — «запусты». Падчас мерапрыемства мы не толькі прэзентавалі беларускі фальклор і народныя песні, але гучала таксама сучасная беларуская музыка, — заявіў былы дырэктар Бельскага дома культуры Сяргей Лукашук, які да выхаду на пенсію адказваў за музычную частку «Спасаўскіх запустаў».

З часам стала традыцыяй, што бяльшчане і прыезджыя спатыкаюцца ў гарадскім амфітэатры перад «Спасаўкай», строгім постам перад Успеннем Прасвятой Багародзіцы, каб захапляцца беларускай музыкай, абрадамі і іншымі культурнымі прапановамі.

— Мы арганізуем «Спасаўскія запусты», каб паказаць грамадству беларускія традыцыі і культуру, прапагандаваць беларускую мову. Падчас мерапрыемства, якое сёлета ладзім ужо дваццаты раз, выступалі калектывы з Беларусі і гурты з іншых краін. Сёння прысутныя з намі асобы, што былі на першых «Спасаўскіх запустах». Прысутныя таксама моладзь і дзеткі, будучыня нашага горада, — сказаў віцэ-стараста Бельскага павета Пётр Божка, заадно старшыня Самаўрадавага аб'яднання «Бельская каалiцыя».

— Бачым вялікую запатрабаванасць на беларускае мерапрыемства «Спасаўскія запусты», падчас якога збіраецца многа публікі, сярод якой многа дзетак і моладзі. Трэба надалей ладзіць гэтую імпрэзу ў нашым горадзе. У Бельску-Падляшскім, дзе жыве многа беларусаў, трэба падтрымліваць беларускую адукацыю, захаванне мясцовых традыцый і развіццё беларускай культуры, — заявіў выконваючы абавязкі бурмістра Яраслаў Бароўскі, былы радны ад «Бельскай каалiцыі».

За ходам мерапрыемства наглядаў таксама Ігар Лукашук, віцэ-дырэктар школы ў Нарве і бельскі радны ад «Бельскай каалiцыі», зараз галоўны арганізатар іншай вялікай імпрэзы «Бардаўская восень». Гарадок гульняў для дзетак, прадаўцы ласункаў і цацак сталі пастаянным элементам «Спасаўскіх запустаў», падчас якіх адбываецца таксама падвядзенне вынікаў музычнай і тэатральнай актыўнасці мясцовых беларускіх калектываў. Сёлета першымі запрэзентаваліся бельскія вучні, якія пад наглядам Альжбеты Фіёнік займаюцца ў тэатральным калектыве «Антракт» Бельскага дома культуры. Паказалі яны жніўны абрад «Зажынкі». Успамагалі іх старэйшыя асобы з «Васілёчкаў», якія займаюцца ў Тэатры «Рэтра», таксама пад апекай Альжбеты Фіёнік. Жніўныя песні праспявалі калектывы «Хмелеўскія валацугі» і «Дараносіца» з Хмелева.

— Жніўныя песні з Хмелева вельмі падобныя да нашых. Таму мы спалучылі выступы нашых спевакоў са спевам носьбітаў фальклору з Хмелева, — сказала Альжбета Фіёнік.

Беларускія народныя песні ў сваёй апрацоўцы і аўтарскія творы запрэзентавалі мясцовыя калектывы «Васілёчкі» і «Маланка». Сёлета 50-гадовы юбілей адзначаць «Васілёчкі», а праз год 25-годдзе будзе святкаваць «Маланка».

— Пад патранатам Бельскага павятовага старастава рэалізуем два праекты, а пад наглядам бельскага бурмістра — адзін. У рамках гэтых праектаў выдалі мы кампакт-дыск з нашымі песнямі, наладзілі выставу аб нашай дзейнасці і плануем купіць саламяныя вянкі на галовы, каб узбагаціць нашыя ўборы. Рыхтуемся да юбілею, які запланаваны на восень гэтага года, — заявілі Юлія Міранчук і Барбара Андраюк з «Васілёчкаў».

— Мы ўжо падрыхтавалі рэпертуар для новага кампакт-дыска. Юбілей плануем адзначыць у першай палове наступнага года, — заявіў музычны кіраўнік «Маланкі» Сяргей Лукашук, які побач з Аляксандрам Божкам быў таксама адным з галоўных стваральнікаў грамадскага руху «Бельская каалiцыя». Некалькі гадоў назад «Бельская каалiцыя» была зарэгістравана як грамадскае аб'яднанне.

— Да самаўрадавых выбараў у 1990 годзе Беларускі камітэт ішоў асобна і ў Радзе горада апынуўся ў апазіцыі.

працяг ☞11





# Эліта і сіта

Не кожнаму знакамітаму чалавеку ўдаецца прайсці праз выпрабаванне „меднымі трубамі”. Асабліва калі гэтыя трубы расійскага Газпрама. Вось, здавалася б, вядомыя і нават вялікія акторы — усё прайшлі — і ваду, і агонь, пралілі шмат поту і багата фарбы-крыві, прынамсі на кіназдымках. А вось спакушэнне славай і папулярнасцю годна перажыць здольны далёка не кожны. Вось і кідаюцца наросхрыст знакамітасці — хто ў татальны блуд ці вычварэнствы, хто ў наркотыкі, хто ў беспрасветны алкагалізм, часта перамешваючы адно з другім. Часам састарэлыя зоркі экранаў робяцца недарэчнымі і незразумелымі. Але дзівацтва дзівацтву розніца. Калі Брыджыт Бардо лічыць галоўнай праблемай нашага свету абарону жывёлы і змаганне з тымі, хто носіць натуральныя футры — гэта і зразумець можна ў значнай ступені, і паіранізаваць над знакамітай бабулькай. Іншая рэч, калі зоркі сусветнага кіно пачынаюць падтрымліваць рэжым, што пагражае мірнаму існаванню народаў. Вось якраз апошнім часам пацягнулася чарада знакамітасцей у пуцінскую Маскву: атлусцелы да непрыстойнасці француз (ці ўжо „новы рускі”?) Жэрар Дэпардзьё, непазнавальны, ледзь злезшы з іголкі, ці зрабіўшы невялікі перапынак, Мікі Рурк, дэзарыентаваны і недалёкі колішні супермен з жалезнымі біцэпсамі Стывен Сігал. Сёння яны — не проста пастарэўшыя зоркі сусветнага кінематографа, а прапагандысты крамлёўскага рэжыму — апранаюць кашулькі з выявай Пуціна, ухваляюць агрэсію ва Украіну. І той жа Дэпардзьё запомніцца ўжо многім людзям не як выдатны актор, рамантычны граф Монтэ-Крыста, а як абслуга рознага кшталту крымінальных паханоў, тыпу Рамзана Кадырава. А Мікі Рурк, былы кумір мільёнаў жанчын, стваральнік серыі яркіх вобразаў, на твары якога не засталося зараз нават кроплі інтэлекту, запомніцца вось такім азызлым і вартым жалю дэгенератам. Нават расійскія знакамітыя акторы і рэжысёры кіно да такой ступені не зганьбіліся. Пераважная бальшыня з іх, дарэчы, увогуле выступіла супраць маскоўскай агрэсіі ва Украіну і захопу Крыма. Толькі некалькі вядомых майстроў кінематографа, такіх як Міхаіл Баярскі і Алег Табакоў, апынуліся ў ліку падпісантаў ліста ў падтрымку пуцінскай палітыкі. Ды і тыя, праўдападобна, як разумныя ўсё ж людзі, не падзяляюць шавіністычных поглядаў крамлёўскіх правадыроў. А проста меркантыльна схіляюцца да карысліва выгоднай для іх асабіста праўладнай пазіцыі, ім жа патрэбна „творча” працаваць, улада за такі „прагіб” забяспечыць усім патрэбным. Так вось „мушкецёры караля” Баярскія становяцца „гвардзейцамі кардынала”. І ад гэтага выглядаюць яшчэ горш. Але прыстойныя людзі больш рукі ім не пададуць — праверка — яна для ўсіх праверка, як казаў адзін кінагерой.

Заходнія ж зоркі атрымліваюць вялізныя ганарары за свае выступы ў падтрымку Пуціна. Шчодрая расійская душа — усё аплачана, пакуль труба пампуе газ. Нафтагазавая рура паглынае рукаў. Але выглядаюць тыя рукі сапраўды вартымі жалю. Нават вялікія сябры Савецкага Саюза — спевакі і артысты, такія, прыкладам, як Дзін Рыд, выглядалі куды прыстойней. Праўдападобна тады ідэі і погляды яшчэ мелі нейкую важкасць.

Крамлёўскія прапагандысты ж з аднаго боку ўсяляк бэсцяць ненавісную ім Амерыку, з іншага — выкарыстоўваюць яе недалёкіх прадстаўнікоў у сваіх мэтах. Трэці Рэйх выкарыстоўваў у сваіх інтарэсах Лені Рыфеншталь, Маскве — Трэцяму Рыму — спатрэбіліся Сігал, Рурк, Дэпардзьё і ім падобныя.

Не ўсё тое эліта, што прайшло праз сіта, — казаў дасціпны Станіслаў Ежы Лец. Кожны займе ў памяці людзей і ў гісторыі сваё належнае месца. І калі Арнольд Шварцэнегер ці Клінт Іствуд застануцца ў іх не толькі як знакамітыя кінаакторы, але і як прынцыповыя сумленныя людзі, то згаданыя асобы ў лепшым разе будуць прыгадвацца са шкадаваннем і спачуваннем.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Цьфу!

Большасць дыскусій інтэрнэт-карыстальнікаў на форумах сацыяльных сетак — на ўзроўні грамадскіх туалетаў ПНРаўскага часу. Гэта я ведаю напэўна. Памятаю, што яны былі часта расталожаны ў падземных пераходах з-за нязмыўнага паху кіслай мачы нейтралізаванай вечна п'янай «туалетнай бабкай» з выкарыстаннем пасыпкі хлорам. Да сёння памяць аб гэтых цэнтральных, прычыгуначных, паркавых «храмах», дзейнічаючых насуперак элементарнай гігіене і чалавецтву, выклікае ўва мне невымоўную агіду! З роўнай той мінулай агідай чытаў я ўчарашнія каментары карыстальнікаў аднаго з польскіх парталаў. Яны звязаны з расійска-ўкраінскай спрэчкай з нагоды «белага канвою» грузавікоў, адпраўленага Расіяй з гуманітарнай дапамогай для жыхароў Луганскай і Данецкай абласцей, дзе ідзе жорсткая вайна. Пытанне: вайна паміж кім і кім павінна знайсці свой адказ ніжэй. Тут прывяду пару інтэрнэтных запісаў на гэтую тэму, і запэўніваю вас, што самых мяккіх. Яны паказваюць, што пачатая ва Украіне вайна перамяшчаецца падскурна ў Польшчу. Цікава, што іх хтосьці беспакарана атручвае ядамі гістарычных крыўдаў. І як па камандзе. Але вернемся да інтэрнэту. «Пуцін бальшавіцкая анучa». «Гэта не Пуцін ануча, а Украіна». «Я спадзяюся, што канвоем рушыць таксама (на Украіну) хаця б 400 (расійскіх) танкаў і 300 верталётаў». «Забіць бандэраўцаў». «Сволач кожны ўкраінафоб». «Даунам смярдзяць мне русафілы і ўкраінафілы!» Дастаткова? Дастаткова. Але ж адпраўной кропкай гэтай бруднай дыскусіі была справа спрэчнай дапамогі расіян для ўкраінцаў...

Як чытачы памятаюць, украінскія ўлады доўга не пагаджаліся на свабодны ўваход расійскіх грузавікоў на сваю тэрыторыю. Падазравалі, і не без прычыны, што не ўсе яны былі загружаны па меншай меры да паловы. Акрамя таго, па словах відавочцаў, многія з іх былі пустыя, можа, калі хто клапоціцца ў дакладнасці, запоўненыя паветрам, свежым як у летнюю раніцу на Маскве-рацэ. Гэта праўда, што пах ваенных дымоў над Данецкам і іншымі гарадамі на ўсходзе Украіны невыносны. Гэта таксама магчыма, што ён змешаны са смуродам трупаў прываленых развалінамі. Але дальбог! Жывучыя там, у гэтым пекле вайны людзі маюць удосталь данецкага і луганскага паветра. У расійскім не маюць яны патрэбы. Усе затое моляць міру і спакою.

Сёння ўжо вядома, што частка грузавікоў пасля праверкі ўкраінскімі мытнікамі і прадстаўнікамі Міжнароднага



Чырвонага Крыжа была прапушчана праз мяжу. Ці толькі іх груз трапіць да грамадзянскіх асоб? Ці не перахопяць яго гэтак званыя сепаратысты? Канвой складаўся з 300 аўтамабіляў. Расіяне, аднак, накіравалі на мытнае афармленне ад дзясятка да некалькіх дзясяткаў адзінак. Яны былі на самай справе загружаны да краёў крупамі, медыкаментамі, пледамі, малаком і хлебам. Ды што з астатнімі — больш за двухстамі? Чаму канвой быў падзелены на групы, якія былі раскіданы ўздоўж мяжы? Ці грузавікі могуць быць пустыя? А можна поўныя зброі? Чым была б у гэтым выпадку расійская гуманітарная дапамога — цынічным падманам маючым адцягнуць увагу грамадскасці ад ваеннай контрабанды, якая бесперапынна пераліваецца з Расіі ва Усходнюю Украіну? У рэшце рэшт, гэта не сакрэт, што руская дзяржава пастаўляе гарматы, танкі і ракеты не проста нейкім там сепаратыстам з украінскімі пашпартамі, але рэгулярным салдатам сваёй арміі, спецназаўцам у адпачынку і распушчаным каўказскімі войнамі рэзервістам. І хто ведае, ці таксама не ісламскім адшчапенцам, вышукваным арабскімі і заходнімі краінамі. Афіцыйна, мабыць, нават самой Расіяй. У любым выпадку, усе яны на расійскім жалаванні. Тым не менш, гэта іх, а не Расію, абвінавачваюць у збіцці пасажырскага Боінга. Гэта іх, а не Расію, абвінавачваюць у рабаванні дамоў і крамаў данецкіх грамадзян. Давайце называць рэчы сваімі імёнамі. Хіба не нейкія сепаратысты, але Расія вядзе адкрытую вайну з Украінай. Але гэта не тая Расія, багатая сваёй вялікай культурай, навукай, інтэлектуаламі, мастакамі, толькі тая бяздумная, адурманеная прапагандай пагарды, ксенафобіі і нацыянал-шавінізму — пуцінская Расія. На жаль, Расія трох чвэрцяў сваіх грамадзян некрытычна падтрымліваючых крывавы авантурызм іхняга прэзідэнта, які разбурае жыццё многіх украінцаў, а затым адпраўляе ім... гуманітарную дапамогу. Цьфу! Зноў жа мне ўспомніўся той клачны смурод. Цьфу, цьфу!

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Што з Еўрапейскім цэнтрам мастацтва

Амаль два гады таму таксама «Ніва» пісала пра гучнае адкрыццё найбуйнейшай культурнай установы ў паўночна-ўсходняй Польшчы — Падляшскай оперы і філармоніі — Еўрапейскага цэнтра мастацтва. Прагучалі ў той час вялікія словы з вуснаў прызначанага на пасаду яе дырэктара Раберта Скальмоўскага, але і падляшскага маршалка, і нават міністра культуры, наконт будучай дзейнасці гэтай установы таксама ва ўсходнім вымярэнні і ролі, якую мае намер выконваць ПОіФ у полікультурным рэгіёне, як той Еўрапейскі цэнтр мастацтва. І, без сумневу, гэты напрамак дзейнасці з рознай інтэнсіўнасцю і рознай ступенню поспеху быў рэалізаваны. На працягу двух гадоў гэты храм культуры наведалі некалькі соцень тысяч чалавек, што з'яўляецца рэкордам з улікам усіх іншых культурных установаў у рэгіёне. Ну і што з гэтага, аднак, калі на канец ліпеня, стан сродкаў у параўнанні да мінулага года знізіўся на 80 адсоткаў, і на яго рахунку ў канцы ліпеня было дакладна 1 777 злотых і 4 грошы пры гадавым бюджэце дасягнуўшым 28 мільёнаў злотых. З лютага гэтага года, дырэкцыя ПОіФ перастала бягуча аплачваць ганарары акцёрам і пастаянныя абавязацельствы. Гэтая ўстанова страціла ліквіднасць, і яе доўг складае амаль 5,3 мільёна злотых; у пачатку гэтага года дырэкцыя ПОіФ — што важна, пры згодзе назіраючых яе дзейнасць самаўрадавых ваяводскіх улад — узяла крэдыт у памеры 3 млн. злотых, які не пагашваецца.

Пасля кантролю, праведзенага Маршалкоўскай управай Падляшскага ваяводства ў апошнія тыдні, аказалася, што адной з прычын пагаршэння эканамічнай сітуацыі з'яўляюцца вельмі дарагая вытворчасць, а нізкі даход, перавышанне фінансавага плана, бесперапыннае змяненне асноўных і рэпертуарных планаў (што важна, ПОіФ не мае ўласных майстэрняў і складоў). Аўдыт таксама ўстанавіў, што раслі выдаткі на персанал, звольнены былі 21 чалавек з 23 запланаваных, ды прынялі 18 новых працаўнікоў.

У выніку гэтых і іншых парушэнняў, дырэктар Скальмоўскі быў звольнены ўправай ваяводства з паведамленнем за тры месяцы без абавязку выконвання працы. Падчас скліканай тэрмінова прэс-канферэнцыі маршалак Дважанскі сказаў:

— Усе мы былі ўражаны талентам дырэктара Скальмоўскага і ён станоўча запісаўся ў гісторыі культуры нашага горада і ваяводства. Гэта вялікі мастак і лютуценнік. Выявіліся аднак, сур'ёзныя недахопы ў кіраванні прадпрыемствам. Фінансавы план не быў ягонай асновай, бракавала супрацоўніцтва з галоўнай бухгалтаркай. Узнагароды і павышэнні для персаналу былі формай кампенсацыі за хаос, які вынікаў з памылак па планаванні працы. Занадта вялікі акцэнт надаваўся манументаль най сцэнаграфіі, прытым надта дарагой. Можна рабіць таннейшае сцэнічнае афармленне з мультымедыямі з аднолькава добрым мастацкім і фінансавым эфектам. Ад размаху прыйдзецца адмовіцца і запрашаць знакамітасці эстрады (маршалак не намякнуў, якія — М. Х.). З банкам можна дагаварыцца.

Што далей з гэтай — як яе вызначае маршалак — флагманскай установай рэгіёна, якой каласальны аб'ект з'яўляецца прадметам зайздрасці ў краіне і за мяжой? Вядома толькі, што на пасаду дырэктара будзе ў бліжэйшы час абвешчаны конкурс, а пакуль на функцыю в.а. дырэктара назначаны Дам'ян Танаеўскі, былы намеснік Раберта Скальмоўскага, перад гэтым спецыяліст па праверках у Маршалкоўскай управе. Што далей з ПОіФ у вымярэнні, указаным у другой частцы назвы, то-бок, Еўрапейскім цэнтрам мастацтва, невядома. Маршалак, у якога я спытаўся пра гэта, пазбягаў адказу. Так што застаецца без адказу пытанне — як здарылася, што ваяводская ўправа бягуча з поспехам не ўмешвалася ў тое, што ў дзень адклікання Раберта Скальмоўскага маршалак назваў «пагаршэннем сітуацыі». Сам былы дырэктар ПОіФ-ЕЦМ правёў прэсканферэнцыю ў дзень, калі гэты нумар «Нівы» здалі мы ў друк. У дзень яго адклікання рыхтаваўся ён да новай (манументальнай) прэм'еры, абвешчанай на 28 верасня — «Скрыпача на даху».

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Бойся Бога і больш нікога

Інтэрв'ю з Паўлам Севярынцам — пісьменнікам, палітвязнем, лідарам Беларускай хрысціянскай дэмакратыі.

Ганна Кандрацюк: — *Беларуская хрысціянская дэмакратыя — партыя незарэгістраваная і адначасова дзейсная. Якім шляхам пранікаеце з хрысціянскімі ідэямі ў народ? Ці дапамагае духавенства?*

Павел Севярынец: — Нашыя іерархі і святары пабойваюцца гаварыць на палітычныя і грамадскія тэмы, таму даводзіцца гэта браць на сябе вернікам-актывістам. Беларуская хрысціянская дэмакратыя якраз і стварылася з такіх вернікаў. Мы сустракаемся і размаўляем з людзьмі альбо пасля набажэнстваў, альбо падчас нейкіх супольных сацыяльных ці дабрачынных акцый. Як выглядае нашая дзейнасць, актыўнасць? У нас каля ста суполак па Беларусі, уласны сайт, шмат розных ініцыятыў. У вялікіх гарадах суполкі налічваюць дзясяткі чалавек, у меншых мясцовасцях мы пачынаем ужо працаваць, калі збярэцца трох-чатырох чалавек. Як правіла, там адзін каталік, праваслаўныя, колькі пратэстантаў. Яны пачынаюць працаваць у сваім асяроддзі: збіраюць подпісы ў падтрымку нашых ідэй, або ладзяць пікет, скажам, за свабоду Беларусі.

У большасці цэркваў, дзе маем стасункі, вернікі падтрымліваюць нашы сацыяльныя ініцыятывы. З палітычнымі справамі намнога цяжэй. Але магу вам сказаць, што ў прэзідэнцкіх выбарах 2010 года цэлыя цэрквы галасавалі за кандыдата БХД. Нават там дзе не было нашых прадстаўнікоў, нашай рэкламы. Вось я прыязджаю ў Пружанскі раён — у нас у Бярозе не было суполкі — а там уся царква пяцідзясятнікаў прагаласавала за Рымашэўскага. Таксама за Рымашэўскага прагаласавала там палова праваслаўных. Гэта паказнік, што нашы ідэі знаходзяць вялікі водгук. Гэта тысячы людзей...

ГК: — *У час прэс-канферэнцыі Вы адзначылі, што ў Беларусі прыблізна мільён актыўных хрысціян. То-бок, толькі дзесяць адсоткаў народа. Ці ў такім ментальным краявідзе ўвогуле магчыма гаварыць пра нацыянальныя ідэі?*

ПС: — Для мяне нацыянальная ідэя гэта не тое, што народ думае пра сябе ў часе, а тое, што Бог думае пра гэты народ у вечнасці. Бог стварыў нас на свой вобраз і падабенства, таму ў ідэале закладзена, каб максімальна наблізіцца да Хрыста. Зараз беларусы — народ жахлівы, не веруючы. Гэта народ, які адрокся ад сваёй мовы. Гэта народ, які адрокся ад сваіх каранёў. Гэта народ, які співаецца і забівае сваіх дзяцей. За апошніх дзесяць гадоў у краіне былі выкананы два з паловай мільёна абортаў, тры мільёны пакутуе ад алкагольнай залежнасці. Гэта жахлівы народ, аднак хрысціянства нясе надзею. Я ведаю шмат бамжоў, які пакаяліся. Яны сталі галовамі сям'і, сталі служыць у царкве, людзі іх паважаюць. Беларусы, ведаеце, зараз у стане такога чалавека ў заняпадзе. Я ведаю цудоўныя ператварэнні чалавека праз Бога, да новага жыцця. Такі шанц ёсць у беларусаў.




ГК: — *Беларусы часта называюць сябе добрымі, ціхімі, пакорнымі. Гэта, паводле Вас хрысціянства ці можа ўжо рабства?*

ПС: — Пакора — хрысціянская рыса і трэба гэта правільна зразумець. Хрысціянін пакорлівы перад Богам, гэта вызваляе чалавека. Нам больш характэрная пакорлівасць перад суседам, перад сляпой сілай: я буду ўсім саступаць, сядзець ціха як мыш. Не, гэта не хрысціянства, гэта рабства, халуйства... Тут трэба шмат тэалагічнай працы, якой, на жаль, у Беларусі не робяць. Разуменне рэлігіі часта зводзіцца да праблемы: як збавіцца. І ўсё!

Сапраўднае хрысціянства прамаўляе як вобраз, які вызначае і палітыку, і эканоміку і культуру, і паводзіны чалавека. Яно толькі што пачынае адраджацца ў Беларусі. На сённяшні дзень ёсць некалькі цэркваў, якія гэтым займаюцца. Гэтыя цэрквы перадавыя, яны прыцягнулі да сябе эліту, уплываюць на мысленне.

ГК: — *БХД паспяхова дамаглася, каб у беларускіх СМІ не прапагандавалі перадач пра акультызм, гадалак, экстрасенсаў? А ці пастулат, каб весці катэхізацыю, урокі рэлігіі ў школах?*

ПС: — Катэхізацыя, зразумела, вельмі, патрэбная. У нас аднак праблема ў шматканфесійнасці. Праваслаўныя хацелі б рабіць курсы толькі для праваслаўных, усе астатнія цэрквы засталіся б без нічога. Я думаю, што на ўзроўні дзяржавы патрэба шэрагу мер, такіх як, скажам, хрысціянскі ўніверсітэт. Трэба дэбатаваць наконт таго, якая падтрымка магла б быць ад дзяржавы. Гэта магло б выглядаць так — царкве даюць права займацца сацыяльна-грамадскай дзейнасцю, перадаюць ёй дзяржаўную ўласнасць, напрыклад, занядбаны будынак, каб вернікі яго адрамантавалі і наладзілі там рэабілітацыйны пункт, госпіс ці антыалкагольны пункт. Колькі зараз у Беларусі алкаголікаў, наркаманаў! Царква не можа ім дапамагчы, бо ёй не даюць памяшканняў.

ГК: — *Гэта ўсё напамінае сітуацыю першых хрысціян, дзе лідары БХД вядуць апостальскую місію. Як людзі на вас глядзяць?*

ПС: — У галовах беларусаў пануе каша, большасць не ўзмозе адрозніць канфесій. Але, калі ў нас сустрэча, людзі пачынаюць думаць, ставяць агромністую колькасць пытанняў. Ніводная партыя ў Беларусі не можа пахваліцца такой колькасцю жывых абмеркаванняў, дыскусій. Мы выходзім да людзей і яны гэта бачаць.

ГК: — *У інтэрв'ю з 2012 года, які далі Вы «Ніве» у час заключэння ў турме, параўноўваеце Усход і Захад Беларусі. Гэта два розныя светы. Усход напамінае пекла на зямлі, чалавек баіцца выйсці вечарам на вуліцу, бо могуць забіць...*

ПС: — На Усходзе практычна няма царквы, няма святароў. Раз на год прыязджае бацюшка ў адну вёску. Там поўнае бязбожжа. І яно адгукаецца: усё дазволена. Там п'юць, пра блуд я нават не кажу. Там адбываюцца настолькі жахлівыя рэчы, што нельга распавядаць. Паглядзеўшы на гэта ўсё, я зразумеў чалавечае дно. А на Палессі ўсё павесялей.

Нават у турме камендатура дазваляла праводзіць хрысціянскія сустрэчы. Яны разумелі, што гэта карысна для вязняў, што менш будуць піць, адчайнічаць. Заўсёды на сустрэчу з пяцідзясятнікамі ці праваслаўнымі прыходзіла 20-25 чалавек, гэта трэцяя частка заключаных.

ГК: — *Хто зацікаўлены ў Беларусі, каб народ быў здаровы, упэўнены? Як да гэтага ставяцца ўлады?*

ПС: — Гэтым зацікаўлены самі беларусы. Каб была моцная сям'я, каб была моцная царква, маральнасць, умовы выжывання для нацыі. Сёння беларусы выміраюць. У дэмаграфічным і нацыянальным сэнсе. Адмаўляемся ад сваёй мовы, культуры. Па кожным перапісе відаць як носьбіты беларускасці знікаюць. Аднак пра падзенне маральных стандартаў ніхто афіцыйна не скажа. Для сённяшняй улады патрэбны народ у прыгоне. Такім заўсёды можна сказаць: «Вы — п'яніцы дык навошта падымаеце голас!».

ГК: — *БХД адстойвае міжканфесійную пазіцыю, прапануе трыадзінства праваслаўных, каталікоў і пратэстантаў. Ці такая канцэпцыя спрацуе ў сучасным свеце, дзе адраджаецца рэлігійны фундаменталізм?*

ПС: — Ідэя трыадзінства праваслаўных, каталікоў і пратэстантаў была рэальнай у ВКЛ, а спроба ператварыць Беларусь у праваслаўных, каталікоў ці пратэстантаў, на маю думку, бесперспектыўная. У нас была контррэфармацыя і скончылася гэта развалам Рэчы Паспалітай. Была спроба зрабіць усіх праваслаўнымі, што закончылася атэізмам. Беларускі ідэал, які заклаў Бог — гэта трыадзінства. Людзі маюць магчымасць выбіраць, што ім па душы. Так больш-менш выглядала ў залатым XVI стагоддзі.

ГК: — *У час апошняга заключэння, якое адбывалася ў Купліне на Пружаншчыне, Вы напісалі кніжку «Беларуская глыбіня». Там шмат светлага, станоўчага...*

ПС: — Я дзякую Богу за Куплін. Гасподзь даў мне магчымасць правесці пакаранне ў больш мяккіх умовах, чым іншым палітвязням. Для мяне гэта было выпрабаванне, духоўны рост. Пасля такіх турмаў выходзіш натхнёны, карэктуеш лінію жыцця, лінію паводзін.

ГК: — *Ці веру ў Бога Вы вынеслі з хаты, ад бацькоў? Ваш продак быў праваслаўным святаром у Варшаве?*

ПС: — Гэта дзіўная і даволі доўгая гісторыя. Верыць у Бога я пачаў у 1998 годзе, калі сядзеў у турме на Валадарцы. Тады я быў кіраўніком Маладога фронту. У нейкі момант улады ўбачылі, што крымінальная справа супраць мяне развальваецца. Выпусцілі мяне на тры дні, на пахаванне пляменніка — а такога не робяць нідзе! Проста пусцілі, каб я з'ехаў з Беларусі. Але я вярнуўся ў турму. Я меў з сабой Новы Запавет. Пачаў чытаць, маліцца. У ноч з 31 траўня на 1 чэрвеня было ўжо столькі рознага, што я зразумеў: гэта не выпадковасць. Бог дзейнічае ў маім жыцці. Калі пра пераемнасць, дык і ў Бібліі сказана, што трэцяе-чацвёртае пакаленне вяртаецца да крыніц. Якраз ад 1917 г., калі мы адракліся ад Бога і паклікалі атэізм, будзе тры-чатыры пакаленні. Праклянцце перастае дзейнічаць...

ГК: — *Як Вам падабаецца быць хрысціянінам?*

ПС: — Зараз маё жыццё намнога глыбейшае, цікавейшае. Раней я думаў пра сябе, што я вельмі харошы хлопец. Я быў выдатнік, я быў цнатлівы, правільны, разумны. Гасподзь паказаў мне шмат грэху ў думках, самалюбства...

ГК: — *Падкажыце тады, як змагацца беларусам са страхам, калі ён закладзены глыбока ў генах. Як адрозніць правільную пакорнасць ад халуйства?*

ПС: — Адказ тут адзіны і такі: *Бойся Бога і больш нікога!*

**Фота Ганны КАНДРАЦЮК**

## Мой сябар

Як хутка ідзе час! Майму сябру Янку Целушэцкаму споўнілася 70 гадоў, хаця з выгляду даюць яму толькі шэсцьдзесят. Янка — многагадовы актыўны карэспандэнт „Нівы”, чытае і распаўсюджвае наш беларускі штотыднёвік.

Яшчэ будучы школьнікам стаў ён пісаць у „Ніву” аб тым, што адбываецца ў ягоным Ляўкове, у ваколіцы, у гміне. У свае маладыя гады Янка Целушэцкі закончыў у Беластоку Настаўніцкую студыю і некалькі гадоў працаваў у школе, а калі кончыў Варшаўскі ўніверсітэт, стаў журналістам „Нівы”. Праца ў рэдакцыі давала магчымасць ездзіць па Беласточчыне, пазнаваць жыццё людзей на Падляшшы і пісаць аб пазітыўных і адмоўных праявах жыцця.

Працуючы ў Беластоку мой сябар стаў членам беларускага літаратурнага аб’яднання „Белавежа” і выдаў, між іншым, зборнік апавяданняў і вершаў „Імгненні”. Зборнік пранікнуты цеплынёй і любоўю да роднага краю, да акружаючай прыроды, да мясцовых людзей.

Аўтар „Імгненняў” даўно на пенсіі па прычыне слабага зроку. Пакінуў ён Беласток і пераехаў у Новае Ляўкова, дзе жыве ў пясторнай бацькаўскай сасновай хаце. На пенсіі Янка актыўна займаецца грамадскай дзейнасцю. Быў ён радным Нараўчанскай гміны, а зараз з’яўляецца солтысам вёскі. У плебісцыце штодзёнкі „Gazeta Współczesna” на найлепшага солтыса заняў высокае трэцяе месца ў ваяводстве.

Мой друг любіць ездзіць на ровары. Нягледзячы на свае 70 гадоў, Янка са сваім веласіпедам аб’язджае сваю і нават суседнюю гміны і піша крытычна аб тым, што бачыў на свае вочы. Падружыўся ён з дажджамі і вятрамі, бо сам пісаў:

Я хацеў бы быць ветрам — блуднікам вечным і мець свой час і сваю даль...

Я хацеў бы быць ветрам, каб узляцець да аблакоў, да рук сонца і вярнуцца адтуль у разлогі жытнёвыя.

На старонцы „Нівы” хочацца пажадаць свайму сябру цёплых падарожных вятроў і доўгага шчасця.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

## Несумленны таксіст

11 жніўня, будучы ў Беластоку, пакарыстаўся я паслугамі таксі (бакавы нумар 01959, рэгістрацыйная табліца BI 3338L). Даражэнькія, абмінайце гэты аўтамабіль. Несумленны гэта перавозчык...

Зрабіў я пасадку на стаянцы на вуліцы Сянкевіча, непадалёк банка ПКО. Таксіст уключыў таксометр. Падвозіў мяне на вуліцу Хробрага 5 ц. На прамежку 2,183 км тры разы ўручную выпраўляў лічыльнік. У выніку атрымаўся рахунак 10,80 зл. Калі я паспрабаваў паясніць, чаму так многа, шафёр адказаў: «Гэта не „дарожка”. За 6 зл. я не буду ездзіць». Хачу пры тым прыкмеціць, што 13 траўня я карыстаўся радыётаксі з-пад рэдакцыі „Нівы” на вуліцу Пралетарыяцкую і заплаціў 6 зл., бо шафёр аказаўся сумленным чалавекам. Прамежак дарогі гэтага праезда мабыць такі, як і з вул. Сянкевіча на Пяста. У той жа дзень падаваўся я таксама на таксі з вул. Пралетарыяцкай на вул. Хробрага 5ц (адрэзак дарогі намнога даўжэйшы) і заплаціў 9,50 зл. Гэта факты. Ці хтосьці з карпарацыі таксістаў зоймецца несумленнымі таксістамі ў горадзе? **(ус)**

# Фэст на беразе ракі



Пасля поўдня ў першую летнюю жнівеньскую нядзелю па Нараўцы і ваколіцы плылі прыгожыя і меладычныя беларускія песні. А гадзіне 17-й у амфітэатры над спакойнай ракою пачаўся беларускі фэст. Прыехалі мастацкія калектывы з Беластока: „Ас”, „Каласкі”, „Гай” і „Лайланд”, „Рэчанька” з Козлікаў (Заблудаўская гміна) ды „Росніца” з Гродна (Беларусь).

Фэст адкрылі і жыхароў Нараўчанскай гміны, гасцей ды ўсе вакальна-музычныя калектывы прывіталі Мікалай Павільч — войт Нараўчанскай гміны і Ян Сычэўскі — старшыня Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку. Зычылі яны ўсім сабраным (прыйшло і прыехала — войт даў аўтобус у Альхоўку і ў Масева — многа людзей) прыемнага адпачынку, добрага настрою і цудоўных уражанняў ад канцэрта.

Канцэрт вёў Васіль Сегень — член ГП БГКТ. Найперш на сцэну выйшла вакальна-музычна-танцавальная гродзенская „Росніца” ў прыгожых беларускіх народных касцюмах. Гэта шматлюдны мешаны калектыў, які мае сваю сядзібу ў Палацы культуры хімікаў у Гродне. Мастацкім кіраўніком яго з’яўляецца Таццяна Бандарэвіч. „Росніца” звонкімі і зладжанымі галасамі праспявала дзевяць песень ды ўсе пад фанаграму. Харысткі, харысты і заадно танцоры прыгожа спявалі і танцавалі, выклікаючы ў гледачоў захапленне.

Пасля выступіў беластоцкі мешаны гурт „Гай” (з шасці чалавек) у беларускіх касцюмах са сваім мастацкім кіраўніком Марыюшам Харужым. Спяваў ён песні на беларускай і ўкраінскай мовах (усіх шэсць). На „біс” выканаў папулярную ўкраінскую песню „Смэрэко”.

Затым на сцэну выйшлі ў прыгожых касцюмах жанчыны з калектыву „Рэчанька” з Козлікаў (сем асоб). Вядзе яго вядомая спявачка і гарманіст Ала Каменская. Сярод членаў калектыву — легендарная спявачка з прыродным мілагучным голасам Люба Гаўрылюк (яна маці Алы Каменскай). Спадарыня Люба спявала песню „Над крынічнай вадой”. Харысткі спявалі і танцавалі з вышыванымі ручнікамі. Спявалі яны прыгожыя новыя беларускія песні, між іншым, „Іграй гармонь” і „Быў цёплы ліпень” (яна вельмі лірычная). Іх спеў, пералівы галасоў — вялікая асалода для душы і сэрца. Такое меркаванне мае і многіх іншых асоб.

Як чацвёрты выступіў калектыў „Лайланд” (налічвае тры асобы, а яго музычны кіраўнік — Багдан Астапчук). Гурт святкуе 20-годдзе сваёй мастацкай дзейнасці. Свой выступ пачалі з песні, як дзяўчына цэлую ноч не спала, з лесніком гуляла, а потым пра цешчу і прашэнні да яе: „дай на машыну, дай на пярыну, дай на калыску”. Паплылі над рэчкаю іх песні „Ой аралі хлопцы поле”, „Касіў Васіль сена” і „Як забава, забава, то до раня”. Канчаючы выступ, запрашалі купляць кампакт-дыскі з іх песнямі.

Па чарзе як пяты калектыў увайшлі на сцэну „Каласкі” (гэта восем маладых артыстак і артыстаў з Беластока) са сваёй мастацкай кіраўнічкай Алай Каменскай. Спявалі яны пад фанаграму і на жыва. Вядома гэта стала, калі паявіліся непаладкі з тэхнікай. Спадарыня Ала праспявала адну прыгожую песню сола. Гурт закончыў свой выступ песняй „Звіняць, звіняць звончыкі”.

На заканчэнне канцэрта паўгадзіны спяваў і граў вядомы ва ўсёй нашай краіне беластоцкі мужчынскі гурт „Ас” (тры асобы, яго мастацкі кіраўнік — Славамір Трафімюк). Іх рытмічныя і зладжаныя раздольныя і меладычныя песні прыпяшаюць біццё сэрца. Зававалі яны сэрцы гледачоў. Усе былі пад уражаннем мелодый. Са сцэны плылі песні „Веру, я веру”, „Белая чаромушка”, „Выйду на вуліцу, гляну на сяло”, „Чырвона рута”. „Ты ляці, мая душа”, „Валошка сіняя”, „Гандзя” і „Бяседа”. Спявалі яны таксама на „біс” песню „Выйдзі ў садочак”. Усе весяліліся. Некаторыя маладыя танчылі.

І так апошнія песні фэсту плылі і адплылі на хвалях рэчкі Нараўкі. Канцэрт закончыўся а гадзіне 20.10. Зараз і сцямнела. Дзень жа пакарацеў на больш чымсьці гадзіну. Ціхім летнім вечаркам прыемна было ісці дадому. Было так лёгка і светла на душы.

Мерапрыемства ладзілі нараўчанскія гмінныя ўлады і гмінны асяродак культуры ды Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Верым і таму ідзем



На перапынку ў Копнай Гары

Сустрэла я іх у час адпачынку на лавачцы насупраць батанічнага парку ў Копнай Гары. Гэта ўжо другі дзень паломніцтва з Крынак у Супрасльскі манастыр. Пра пятнаццаць, у большасці жаночых, душ узяў на сябе клопат настаяцель Крынскага прыхода айцец Пётр Харытанюк.

— Гэта ўжо нашае шаснаццатае паломніцтва да іконы Супрасльскай Божай Маці, — інфармуе настаяцель. — Толькі ў прошлым годзе нам гэта не атрымалася.

— З чаго пачалося?

— Мы падумалі, ідучь туды з Беластока, Бельска-Падляшскага, Гайнаўкі, Саколкі, дык чаму б нам не паспрабаваць. Калісь у гэтым месцы, у Копнай Гары спатыкаліся мы з сакольскімі паломнікамі, якія ішлі праз недалёкі Вярхлес. Далей пайшлі мы разам. На жаль, Саколка ад некалькіх гадоў ужо не паломнічае.

Не вядома ці продкі сённяшніх крынскіх паломнікаў хадзілі туды ці не. Прынамсі ніхто з цяперашняй кампаніі паломнікаў не мог такога ўзгадаць. Вядома, што ўсё пачалося з адраджэння манастырскага жыцця ў паслякамуністычны перыяд.

— Да гэтага часу свята іконы Супрасльскай Божай Маці мела толькі прыхадскі ранг, — тлумачыць айцец Пётр. — Больш вядомым стала яно дзякуючы намаганням супрасльскіх манахаў.

Паломнікі ідуць няспешна. Пасля першай, пятнаццацікіламетровай дыстанцыі запыніліся на начлег у вёсцы Трысцянае-Старое. На другі дзень пакінулі сабе чарговых дваццаць кіламетраў. У Востраве-Паўночнам далучыліся да іх яшчэ пяць прыхаджанак тамтэйшай царквы на чале з матушкай Людмілай Клімук. Сярод іх найстарэйшая паломніца — сямідзесяцідвухгадовая Марыя

— Іду, як астатнія, малітва сілу дае, — прызнаецца з усмешкай жанчына.

— Молімся за здароўе і поспех у сям’і і блізкіх, за тое, што ўжо атрымалі і што атрымаем у будучыні, — гаворыць спадарыня Іаланта з падкрынскай Горкі.

— Цярплівая малітва творыць цуды. Яна дзейнічае безупынна. Калі паяўляюцца праблемы, калі цяжка, молішся і табе ўжо лягчэй. Гэта сапраўды памагае. Мы верым і таму ідзем, — з упэўненасцю дадае спадарыня Марыя з Крынак.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# Псіхадэлія ў Бяндзюзе


Фота Міры ЛУКШЫ

У міхалоўскай, наднарваўскай Бяндзюзе жывуць толькі беларусы. Гаспадарак пад дваццаць. Дом пры доме. Дарогі вакол ліхія. Як зямля. Дзеці многіх тутэйшых выехалі. Маладыя людзі, якія засталіся, жывуць у асноўным з лесу. Галіна Ціванюк жыве тут ад многіх гадоў, ды родам яна з гарадоцкага Дзернякова: «У мяне шэсць гектараў. Муж памёр. Дачка замужам у Міхалове, малодшы сын у Англіі. Застаўся толькі старэйшы. У лесе робіць, з бульбай дапамагае». Мінулай восенню тут пасяліўся ў суседстве са спадарыняй Галінай Януш Гаўрылюк, ініцыятар і арганізатар праводжанага сёлета ўжо ў чацвёрты раз Фестывалю беларускага кіно «Bulbamovie». На ягоны кавалак луга, з якога можна ўбачыць дрэвы акольваючыя скіт у Адрынках, пры нававыбудаваным доме на ўскраіне вёскі ў прыцемках 15 жніўня сышлася ўся вёска. Завітала сюды беларускае кіно — незалежнае.

У Бяндзюзе калісь быў зборны пункт для арэляў, якія спускалі драўніну ракой. Адсюль і назва вёскі. 85-гадовы мужчына, самотны Васіль Саковіч нарадзіўся тут і тут хоча памерці: «Калісь, да рускай вайны, у нас было восем участкаў, восем гаспадароў. Пасля пажаніліся, падрабіліся. У майго бацькі была тут вялікая гаспадарка ў 16 гектараў».

Дзядзька Васіль таксама прыйшоў паглядзець што за кіно прыехала. Перад экран, пазычаны ў Гмінным асяродку культуры ў Міхалове, некалькі святочна апранутых жанчын прыйшлі са сваімі крэсламі. Іншыя селі на матрацах і крэслах гаспадара. Не звяртаючы ўвагі на бязлітасна рэжучых камароў, таксама прыбылі госці з Беластока. Усе на дапрэм'ерны паказ новага фільма Андрэя Кудзіненкі «Hard Reboot» («Жорсткая перазагрузка»), названага псіхадэлічным трылерам, і на сустрэчу з рэжысёрам, народжаным у Брэсце ў 1971 годзе. З'яўляецца ён адным з апошніх вучняў легендарнага беларускага рэжысёра Віктара Турава, аўтарам знакамітага фільма «Акупацыя. Містэрыя», які быў выпушчаны ў 2004 годзе, і быў высока ацэнены на еўрапейскіх кінафестывалях, затое ў Беларусі праз некаторы час быў забаронены за паказанне партызанскага руху, якое было «насуперак праўдзе, і можа абразіць пачуцці ветэранаў вайны і негатыўна паўплываць на выхаванне дарастаючага пакалення». Пасля рэалізацыі гэтай кінакарціны Андрэй Кудзіненка з'ехаў у Маскву, дзе зняў серыял «Кадетство» і фільм «Розыгрыш», якія дабіліся вялікіх поспехаў на расійскім рынку. У 2009 годзе афіцыйна быў ён запрошаны ў кінастудыю «Беларусьфільм». Паставіў для яе «Масакру», першы беларускі бульбахорар (жанр, вынайдзены рэжысёрам). У рэшце рэшт вярнуўся ў Беларусь. З яго асобай незалежныя кінакрытыкі звязваюць будучыню беларускага кіно, падкрэсліўшы, што, нават калі праца рэжысёра выклікае спрэчкі, відавочна тое, што ён быў у стане адкрыць новую старонку ў гісторыі беларускага кіно. У Бяндзюзе рэжысёр ахвотна расказваў аб ад нейкага часу рэалізаваным праекце «Хранатоп»:

— Мастацкага кіно практычна ў Беларусі няма. Я падумаў, што ў час твіцера, фейсбука, кароткіх выказванняў настаў час, каб стварыць свет-міф Беларусі ў выглядзе трох-, пяці-, сяміхвілінных фільмавых аповедаў розных рэжысёраў, беларускіх аўтараў, такі вебсерыял, праект, заадно аб'ядноўваючы нашых кінематаграфістаў. Узнікаюць міфалагічна-крымінальныя навелы, што ідуць недзе ад Баршчэўскага ці Караткевіча, дзе рэальны, просты побытавы свет чалавека пераходзіць у нешта сакральнае, каб гэта было беларускім жанрам. Трэба сабраць усіх людзей, якія зараз працуюць на сваіх палях. Мая галоўная ідэя складаецца ў тым, каб стварыць беларускі жанр, свой твар. Ёсць у беларускім кіно штосьці постсавецкае, посткаланіяльнае, правінцыйнае. Усё, што робіцца ў кіно ў Беларусі, робіцца на расійскі рынак, і гэта вельмі дрэнна. Трэба стварыць аблічча краіны, а ніхто гэтага не робіць таму, што беларуская дзяржава гэта ў асноўным чыноўнікі, якія робяць грошы. Для кінаіндустрыі ніхто нічога не робіць, толькі я. Кінаіндустрыя гэта я.

Аб «Hard Reboot»:

— Рэалізуючы фільм я вярнуўся са свету камерцыйнага кіно ў свет кіно без грошай, без прадусараў і г.д. Дарэчы, гэта тэндэнцыя сучаснасці. Пасля вяртання ў Беларусь з Масквы была ў мяне дэпрэсія і ў маіх сяброў з групы «Noize MC» у Расіі таксама. Я прапанаваў, каб мы паехалі ў лес на беларуска-літоўскай мяжы, узялі камеру і пачалі здымаць. Што з гэтага атрымаецца, я не ведаў. Не было ніякага сцэнарыя. Апаратары здымалі ўсё, а там адбыліся шматлікія канфлікты. На бягуча я стаў выстройваць сюжэт на міфалогіі, на ініцыяцыі героя, хаця чыста дакументальны фільм з гэтага матэрыялу мог таксама паўстаць цікавы. Гэта быў свайго роду перформенс, эксперымент.

Сустрэчу з рэжысёрам вёў мінскі кінакрытык Андрэй Расінскі:

— «Hard Reboot» з'яўляецца эксперыментальнай стужкай аб пошуку сябе. Уключаны ў фільм дакументальныя здымкі з таго, як група спрабуе аднавіць адносіны паміж сабою і далучаны да іх містычныя гісторыі, якія выдумаў сам рэжысёр. Гэта кінатэрапія, а адначасова казка, ініцыяцыя, поўная душэўная перазагрузка для персанажаў фільма і гледачоў ды краіны, якія знаходзяцца ў стане такога пераходу. Усе ў Беларусі знаходзяцца ў стане такога пераходу. Можна глядзець фільм як містыку, як фільм жахаў, у той час гэта спроба стварыць новы жанр, нешта новае. Фільм кіруецца таксама да аматараў жанравага кіно і добрай музыкі, якой у ім шмат.

Януш Гаўрылюк, выпускнік Дзяржаўнай цыркавай школы ў Юлінку, беларускай філалогіі і журналістыкі (лабараторыя рэпартажу) у Варшаўскім універсітэце, аўтар кіна-офу, які працуе на тэлебачанні «Белсат»:

— Я хацеў бы, каб Бяндзюга была ў будучыні месцам для маладых беларускіх кінематаграфістаў, але і гэтых з Падляшша, каб тут рабіць розныя фільмавыя імпрэзы. Першыя эцюды тут мы паставілі, у жвіровым кар'еры ў Бяндзюзе, у рамках «Хранатопа». Гэтым праектам зацікаўлены сучасныя беларускія пісьменнікі, якія ўжо напісалі або пішуць наступныя эцюды, у тым ліку Адам Глобус, Павал Касцюкевіч, Віктар Марціновіч, Артур Клінаў, Аляксандр Качан. Ідэя складаецца ў тым, каб была гэта вэб-серыя, і кожную з эцюд мае спалучаць герой, адзін рэквізіт або месца. Гэта мае быць такое інтэрнэт-сафары, каб, клікаючы, можна было падарожнічаць сабе па сучаснай Беларусі.

Не ўсе жыхары Бяндзюгі датрывалі да канца 70-хвіліннага паказу.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

## Па гарачых слядах

У прыгарадныя Саўляны Супрасльскай гміны ездзіць мала аўтобусаў Беластоцкай гарадской камунікацыі (БГК) па маршруце № 13. Аўтобусы ПКС ці прыватнага пасажырскага аўтатранспарту сюдою не ездзяць. Улады гміны не даюць больш грошай, каб павялічыць колькасць аўтобусных рэйсаў. Яны толькі манілі і маняць, што паедуць сюдою аўтобусы лініі № 111 і справа будзе вырашана. Гэтак бургамістр абяцаў саўлянам на вясковых сходах чатыры гады таму ды апошнім часам два гады і год таму. Зруху ў справе ніякага.

Сёлетняй вясною — было гэта перад Вялікаднем — намеснік дырэктара БГК мне — яго наведвальніку — сказаў: дасць бургамістр больш грошай, тады ў Саўляны часцей будуць ездзіць нашы гарадскія аўтобусы. Вось такая камерцыя. А вядома ж, пасажыры ж не ездзяць дарма. На праезд у Саўляны, Каракулі ці ў Цяснэ купляюць два білеты, бо за горадам ужо другая зона і ўяе прадаюць другі білет. Войты іншых суседніх з горадам гмін лепш клапоцяцца пра даезды сваіх жыхароў у Беласток і ў свае вёскі, сказаў мне на развітанне намеснік дырэктара БГК.

Жыхарам — як было раней то і зараз — прыходзіцца хадзіць амаль 2 кіламетры на апошні гарадскі прыпынак „13-ткі" на вуліцы 42 Пяхотнага палка. А „13-тка" з Саўлян ездзіць так: як паедзеш у сем або ў восем гадзін раніцы, то назад вернешся а гадзіне 12-й. Калі табе трэба вярнуцца раней чымсьці ажно праз чатыры гадзіны, то ідзі сабе пешшу. Што там спёка на двары, што там дождж. Нясі ў руках усе пакупкі.

У Саўлянах — нягледзячы на тое, што вёска налічвае 320 жыхароў — здаўна няма ні паштовай укіднай чырвонай скрынкі, ні паштовага аддзялення (яно ў далёкай Грабаўцы), ні стаянкі таксі, ні крамы. Аўтакрамы з харчовымі прадуктамі таксама не прыязджаюць. Каб з Саўлянаў даехаць у Супрасль (у сядзібу гмінных улад), дык трэба дабірацца праз Беласток і да таго купіць тры білеты. Але вось яшчэ як даехаць, калі ў той Беласток аўтобусы рэдка ездзяць. А як вярнуцца? Ці бургамістр падумаў калі пра гэта? А ён жа гаспадар горада Супрасль і ўсяе гміны.

Хадзіць то хадзіць. Побач гэтай рухлівай, вузкай ды крутой дарогі з Супраслі ў Беласток цераз Каракулі і Саўляны няма тратуараў, няма таксама веласіпеднай дарожкі. Пешаходам прыходзіцца ісці па маставой. Абочыны дарогі ў зараснях. Апроч таго зараз абочыны зараслі яшчэ высокім і густым пустазеллем. Мала таго, на крутых паваротах растуць купчастыя лісцевыя кусты і яны вельмі абмяжоўваюць поле бачання для вадзіцеляў аўтамашын, якія могуць і не заўважыць не толькі пешахода, але і другой аўтамашыны. Небяспечна тут. Ці дарожныя службы гэтага не заўважаюць?

## Камунальныя кватэры

Камунальныя кватэры ў Беластоку запатрабаваныя. Новы блок а ў ім 37 камунальных кватэр будуюць па вуліцы Барсучай на пасёлку Дайліды.

Сёлета ў ліпені новы жыллёвы камунальны пасёлак пачалі будаваць па вуліцы Бэма. На гэтым пасёлку ў гміны васьмігектарны ўчастак пад жыллёвае будаўніцтва. Шмат гадоў таму гэты ўчастак завяшчыў гораду ваявода. Зараз ставяць тут будынак на 70 кватэр. Знаходзіцца ён на гмінным участку паміж вуліцамі Бэма і Wojsk Ochrony Pogranicza, зараз жа за сядзібай часці Пагранічнай аховы. У бліжэйшым часе пабудуюць тут яшчэ два жылыя блокі на 101 кватэру. На гмінным 8-гектарным участку можна пабудаваць 15 камунальных блокаў, а ў іх — 900 кватэр за кошт 100 мільёнаў злотых. Камунальныя кватэры будуюць для маламаёмных беластачан, якія знаходзяцца ў цяжкай жыццёвай сітуацыі. Патрабуе іх некалькі соцень чалавек. Таму Праўленне камунальнай маёмасці плануе штогод будаваць чарговыя блокі. У новым камунальным будынку па вуліцы Бэма кватэранаймальнікі паселяцца ў 2015 годзе.

(яц)



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі


# Алеся – эльф

Жыла-была на свеце Алеся са сваёй сям'ёй. Дзяўчынка любіла прыроду, асабліва звяроў. Аднойчы, разам з сястрой і малодшым брацікам, яна пайшла катацца на каньках, на возера. Раптам лопнуў лёд і Алеся апынулася пад вадой. Толькі сястра не страціла розуму, яна скочыла да брацiка і вывела яго на бераг. Яны ацалелі. Сям'я доўга шукала дачушкі, але безвынікова, Алеся ўтапілася і прапала...

Аднак Алеся не згубіла жыцця. У пэўны момант яна зразумела, што апынулася ў іншым свеце. Яна паднялася на ногі і пабачыла пчолку. Пчала была роўная з дзяўчынкай. Яна падумала: што мне рабіць? З таго ўсяго яна стала лямантаваць:

— Ратуйце людзі, ратуйце!

— Якія людзі? — прамовіла пчала. — А чаму не насякомыя, чаму не звяры?

Яны пасябравалі. Пчолка ўзяла Алесю на сваю спіну і яны паляцелі ў шырокі нязведаны свет. Пчолку клікалі Саломінка. Дзякуючы яе прыхільнасці, сяброўкі аблёталі шмат месцаў. Яны разам рыхтавалі застолі, елі цукеркі і марозіва. Аднак у першы дзень вясны, 21 сакавіка, настала вялікая перамена.

Дзень быў сонечны і прыемны. Саломінка нічога не гаварыла.

— Куды паляцім? — спытала Алеся.

— Ты ўбачыш, — адказала ёй пчала, — а цяпер супакойся.

— Добра-добра...

Алеся ўскараскалася на спіну пчалы і яны паляцелі пад стары магутны дуб. Там сабралася шмат звяроў. Алеся спачатку спалохалася. Саломінка прыляцела да месца, дзе сядзелі ўладары лесу: кароль і каралева. Пчала паставіла Алесю перад імі.

Кароль спытаў у дзяўчынкі:

— Хто ты і адкуль?

Яна назвала сваё імя і прозвішча.



— Так, гэта тая — сказала каралева, — мы цябе ведаем...

Кароль і каралева пагаварылі нешта шэптам паміж сабой і Алеся адчула, што яна падымаецца ўгару як птушка. Так, яна набыла здольнасць лётаць! Алеся стала маленькай як зярнятка, у яе былі крыльцы, зялёная сукенка, чырвоныя туфлі і жоўтая шапка.

Яна стала эльфам. І атрымала задачу. Ёй даручылі карміць звяроў. Праца спадабалася дзяўчынцы. Зараз яе пасялілі ў хатцы сярод макаў. Усярэдзіне быў ложак, туалет, кухня, крэсла і шафа. Алеся карміла звяроў і адначасова сваю сяброўку Саломінку. Пасля працы старыя сяброўкі лёталі паесці марозіва. І так яны кружылі туды-сюды тыдзень, два, тры... Алеся была вельмі шчаслівай.

Але аднойчы яна прыгадала сям'ю і засумавала. Яна дамовілася з Саломінкай, каб разам злётаць у свет людзей і наведаць сям'ю Алесі. Сяброўкі сабраліся ў дарогу. Родны дом, як і раней, стаяў у агародзе, сярод кветак. Сяброўкі падышлі да акна. Усярэдзіне былі мама, бацька, брат і сястра. Алеся хацела прытуліцца да мамы, аднак яна ведала, што яе не пабачаць і не пазнаюць. Пагасціўшы ў роднай хаце, дзяўчынка-эльф і пчолка вярнуліся ў свой свет. Там радасна сустрэлі іх звяры, якіх даглядала Алеся. Яна ўжо разумела, што нельга існаваць адначасова ў свеце людзей і свеце звяроў, дзесьці пад возерам.

**Віка Кардзюкевіч**

***„Сустрчанская скрыня"***

## Вершы Віктара Шведа

### Двойка за ката

— Я нарысаваў ката —
Глянь, якая любата!
За яго, сабе прадстаў,
У школе двойку атрымаў.

Кажа маці: — Сапраўды,
Двойка вось чаму тады?
— Зрабіў настаўнік такі крок —
Быў матэматыкі ўрок.

### Экзамен на носе

Сварыць мама Антося:
— Маеш экзамен на носе,
А ты час толькі траціш
Замест рашаць задачы.

— А я, — кажа Агата, —
Гляджу на нос свайго брата,
І хоць час свой трачу
На ім нічога не бачу.

### Паспрачаліся дзяўчаты

Спрачаюцца дзяўчаты,
Чый лепшы тата.
— Мой тата багаты, —
Сказала Агата.

— А мой, — кажа Ната, —
Разумны надта.
— Мой грошы пазычыць дазволіў.
— А мой не аддасць іх ніколі.

# Прадаўжаць, тое што рабілі бацькі...

Фільм „Сейбіт" аўтарства Юры Каліны гэта незвычайны дакумент. Славуты падляшскі кінарэжысёр паказаў сучасных адраджэнцаў беларускасці. Галоўным героем фільма з'яўляецца Дарафей Фіёнік, жыхар Студзіводаў, што каля Бельска. Ён — заснавальнік Музея малой айчыны ў родных Студзіводах. Фільм паказвае жыццё ўсёй сям'і героя. Для іх важныя і жывыя беларускія абрады, праца на зямлі і родная мова. Спадар Дарафей перадае традыцыю сваім дзеткам, хоча, каб яны захавалі яе і перадалі далей, наступным пакаленням. Адным з герояў фільма з'яўляецца Максім, сын спадара Дарафея. Яны двух, бацька і сын, сустрачанскія сябры. Максім працаваў з намі ў сустрачанскай газеце „Пушчанскі голас".



У адным інтэрв'ю ён сказаў, што паміж Падляшшам і Палессем няма культурнай граніцы. У Беларусі быў ён больш за трыццаць разоў. Найбольш пасмакавала яму палеская таўканіца. Максім сказаў, што мае намер прадаўжаць тое, што робіць яго бацька.

Тут трэба сказаць яшчэ пра адзін гістарычны працяг. Рэжысёр Юры Каліна ў пэўнай меры ідзе следам Тамары Саланевіч. Ён паказвае нашых людзей і іх свет, а фільм „Сейбіт" з багатай і жывой этнаграфіяй, у многім напамінаў нам „Нараўчанскую баладу".

**Оля Зіневіч, Эва Аврчук**

***„Пушчанскі голас"***

# Падарожжа аднаго кураняці

Жыў-быў у пушчанскай мясціне хлопчык, якому было тры з палавай гадзіка. Ягонае імя — Давід. Аднойчы паехаў ён са сваімі бацькамі і маленькім брацікам да бабулі ў Варшаву. Каб не было надта нудна, выбраліся ўсе разам на сямейны фэст. Там Давід сустрэў свайго сябру Мацька, з якім пагуляў на дзіцячай пляцоўцы. Прадаваліся там, між іншым, каляровыя паветраныя шары ў форме выяў герояў дзіцячых мультфільмаў. Мама і тата пагадзіліся, каб купіць сыночку такі шар. Хлопчык выбраў сабе форму жоўтага кураняці. Давіду паветраны шар прывязалі да рукі. Кураня разам з хлопцам гуляла і нават пасябравала. Раптам птушка папрасіла свайго новага сябру пусціць яе вышэй у неба. І кураня палящела высокадалёка. Бацькі хлопца спрабавалі лавіць паветраны шар, аднак гэта ім не атрымалася. Давід пасмутнеў і ўсё пытаў пра жоўтае кураня.



Мінула некалькі тыдняў. Хлопчык з мамай, татам і брацікам вярнуліся ў сваю хату на краю пушчы. Давід ужо менш пытаў пра жоўтага сябру. Аднойчы ў нядзелю тата ўзяў хлопца на мерапрыемства ў бліжэйшым гарадку. Былі там розныя атракцыёны для дзяцей. Між іншым, каляровыя паветраныя шары. Дык раптоўна на твары Давіда з'явілася цудоўная ўсмешка. Ён пабачыў свайго жоўтага сябру! Шар-кураня расказаў пра сваё падарожжа. Калі ён адляцеў ад хлопца па варшаўскім небе, пачаткова цешыўся свабодай. Але даволі хутка засумаваў па Давідзе і вырашыў ляцець туды, дзе знаходзіцца родная хата хлопчыка. І спыніўся на адпачынак у час мерапрыемства, дзе шчасліва сустрэў малога сябру. Дык такім чынам Давід і жоўтае кураня зноў былі разам і маглі супольна гуляць.

**Эва Вашчынская**

# Сон

Закрываю вочы  
І...  
Пачынаецца новы фільм.  
Дзіўны,  
Бо без ладу.  
Іншы,  
Бо чорна-белы.  
Страшны,  
Бо ўцякаю, крычу і плачу.  
Змагаюся за сваё жыццё.  
Падаю ў прорву.  
Канец...  
На шчасце фільм  
Кароткі.  
Прачынаюся.  
Шчаслівая,  
Што гэта толькі сон.

**Паўліна Лаўнічук**  
***Бандары, школа ў Міхалове***

# Рэжысёрка-беларуска



Тамара Саланевіч нарадзілася ў 1938 годзе ў Нараўцы. Будучы рэжысёркай, жыла ў Варшаве. Нягледзячы на гэта, часта прыязджала ў Нараўку. Тут дапамагала маці абрабляць зямлю. Тамара Саланевіч асабліва любіла сенакос. Праца дапамагала ёй зразумець характар вясковых людзей, іх мары і праблемы. Яна хацела захаваць вобраз нашых людзей у кінарэпартажах. Як успамінаюць яе героі, вельмі многа размаўляла з людзьмі. Дзякуючы гэтаму, яны пасля больш свабодна выступалі перад камерай. Рэжысёрка ніколі не саромелася сказаць што яна — беларуска. Для людзей з Нараўкі і наваколля гэта было вельмі важным што сярод іх ёсць хтосьці славуты і адначасова свой, мясцовы, як яны.

**Наталля Васько**  
***„Сустрачанская скрыня”***

# Віктарына пра Тамару Саланевіч

1. *У якіх гадах жыла Тамара Саланевіч:*
   А. У 1934-1996 гадах.
   Б. У 1938-2000 гадах.
   В. У 1942- 2002 гадах.

2. *Дзе нарадзілася Тамара Саланевіч?*
   А. У Нараўцы.
   Б. У вёсцы Гушчэвіна.
   В. У Беластоку.

3. *Якія фільмы стварыла Тамара Саланевіч?*
   А. „Прыгоды Румцайса”.
   Б. „Нараўчанская балада”, „Ці чуеш як плача зямля”.
   В. „Garfield”.

3. *Дзе знаходзіцца Гімназія імя Тамары Саланевіч?*
   А. У Гайнаўцы.
   Б. У Варшаве.
   В. У Нараўцы.

**Адказы:**  
4 правільныя: Ты фан Тамары Саланевіч.  
3 правільныя: Ты любіш Тамару Саланевіч.  
2 правільныя: Ты ведаеш хто Яна.  
1 правільны: Ты нешта чуў пра Тамару Сланевіч.  
0: Ты нічога не ведаеш пра славутага чалавека з Падляшша.

**Вераніка Кардзюкевіч**  
***„Сустрачанская скрыня”***

# Пасля навальніцы

... Прайшла навальніца. Толькі што страляла, ляскала. Неба злосна крэмзалі бліскавіцы. Але ж адпаўзлі на аглухлых басах грымоты і ўжо здаля толькі вуркочуць. Па страсе сплылі апошнія нацягнутыя ніткі даждж у.

Над зямлёю падковай выгнулася вясёлка. Высока над полем азваўся жаўрук — пяюн нябеснай оперы. У прамоклым садзе салаўі зноў раскладваюць ноты. Сланечнік таксама адхіліў шапку.

А я так люблю, калі каля маіх акон зноў так прыемна, так ціха шумяць бярозы. Ды дзікім мёдам пахнуць палыны.

**Янка Целушэцкі**

# Польска-беларуская крыжаванка

## № 34

Wierszyk  
Chce  
Odlot  
Siano  
Słonik  
Oko  
Wyzwanie  
Wieczór  
Inaczej  
Wapno  
Odlot ptaków  
Dar  
Olej  
Fa  
Tam  
Tratwa  
Znak  
Nika  
Mój

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 30**: канікулы, кубак, ух, Парыж, вір кава, арабінка, яр, пыласос. Кактус, карп, неба, вар, піва, кок, араб, ар, муж, марс.

(працяг ад 33 нр-а)

# Дзякуючы беларускай мове

## З аднакласніцай Раісай САМОЦІК-САНГАР размаўляе Аляксандр Вярбіцкі.

**— Ты нарадзіла двое дзяцей у Індыі. Як там выглядае лекарская апека, напрыклад, у прэнатальны перыяд?**

— У нас была добрая медыцынская апека. Мужава фірма мела свой шпіталь, у якім працавалі добрыя лекары. Кожныя два тыдні трэба было наведваць лекара і калі што не так, то зараз запісвалі неабходныя лякарствы, бясплатныя.

**— Тыя лекары таксама валодалі рускай мовай?**

— Не. Спачатку хадзіла я да іх з мужам, а пасля ўжо сама дамаўлялася з імі падчас абследавання і працэдур. Кожны сямейнік меў свой медыцынскі бюлетэнь, у які заносіліся ўсе інфармацыі, у тым ліку і рэцэпты, якія бясплатна рэалізавала шпітальная аптэка.

**— А як праходзіла Твая акліматызацыя, бо ж там еўрапейцам нельга піць непераваранай вады?**

— Дрэнна ў мяне атрымалася, бо пачала піць ваду. Там усюды падаюць ваду, да каго ні зойдзеш, адразу падаюць ваду, у рэстаране адразу прыносяць ваду. І ўсе тую ваду п'юць; і я стала піць. І ў хаце ваду піла. І мела крыху праблемаў. Прымала лякарствы і неяк заакліматызавалася. Спачатку цяжка было таксама ладзіць з тамашнімі пахамі, спецыямі, але з часам палюбіла іх.

**— Мужава сям'я была вялікая, жылося пэўна, інтэнсіўна, але дахаты хацелася?..**

— Так. Я шмат часу не надта добра сябе адчувала. І цешча падказала мужу паслаць мяне дахаты, у Польшчу. Нашаму сыну было каля двух гадоў, калі я першы раз прыехала да маіх родных. Тут правяла восень і зіму і — акрыяла. І як заехалі назад, у Індыю, то ўсе знаёмыя дзівавaліся, што я так выдатна выглядаю. Пасля было ўжо лепш, але прычапілася малярыя. Я спачатку не ведала, што гэта такое — холадна ў спёку, тэмпература навонкі падходзіць пад сорак градусаў, а мне холадна. У нядзелю муж паехаў на працу, а я ў той час шчыльна пазачыняла вокны, бо чула скразнякі, зацягнула маскітныя сеткі, накрылася пледам і ляжу. Прыязджае муж і адразу вязе мяне ў шпіталь. Я ўхуталася, а навонкі жара. Заязджаем, лекар усміхнуўся, адразу дыягнаставаў малярыю. На наступны дзень муж прывёз лекі і вельмі хутка, з дня на дзень, хвароба пачала адступаць.

**— А ці там Ты мела такую кампанію, у якой можна было павесяліцца, папляткаваць?**

— У мяне была вялікая кампанія. У пасёлку жылі людзі з цэлай Індыі, асабліва было там многа маладых. Маю кампанію складалі жанчыны галоўным чынам з поўдня Індыі. І найбліжэйшая сяброўка была таксама з поўдня краіны, з якою спатыкаліся амаль штодзённа. І яна далучыла мяне да сваёй кампаніі, было нас каля дванаццаці жанчын. Ладзілі мы штомесяц такія сустрэчы, дзе кожная прыносіла па сто рупій, арганізавалі латарэю і тая, што выйграла, ладзіла пачастунак за тыя грошы. Мае суседкі дзівавaліся, што да мяне прыязджала многа знатных жанчын. Тыя індыйкі, з поўдня краіны, не хацелі да сваёй кампаніі прымаць пенджабскіх жанчын, бо лічылі іх надта задзірлівымі, як і рускіх; а мяне шанавалі.

**— А цяпер больш агульнае пытанне: ці там, дзе Ты жыла, было што з індыйскай экзотыкі, кшталту факіраў ці ёгаў? Ці хадзілі там каровы?**

— Хардвар гэта святы горад індусаў, там нельга купіць мяса. Мяса мы варылі крадком — ездзілі ў мусульманскі гарадок, сем кіламетраў ад Хардвару, і там куплялі мяса.



Раіса Сангар з мужам і цешчай (фота з сямейнага архіва Раісы Сангар)



Раіса Сангар з сынам і мужам на рацэ Ганг (фота з сямейнага архіва Раісы Сангар)

**— Бараніну...**

— Найлепшая была казляціна. Куплялі мяса час ад часу, але косці пасля тайком выносілі, каб ніхто не даведаўся пра крамолу.

**— А малако там было?**

— Было.

**— Казінае?**

— Таксама.

**— Бо кароў не даілі?**

— Каровы былі на кожным кроку, але гэта былі дзікія каровы, якія малака не мелі. Аднак людзі трымалі свойскіх кароў, ад якіх даілі малако. А найлепшае малако было ад буйваліц — вельмі пажыўное. Мы малако куплялі ў аднаго мусульманіна, які трымаў кароў і прывозіў малако.

У Хардвары святых многа, якіх толькі хочаш, што голыя ляжаць і на шкле, і на дратах, якім людзі даюць грошы. Вельмі многа там пракажоных; ёсць там алейкі, дзе сядзяць самі пракажоныя. І я аднойчы ў такую алейку зайшла, хацела даць грошы. Аднаму; але там, як даваць, то трэба ўсім. І яны мяне акружылі з баначкамі — хто без рук, у каго ног не было. Мяне ахапіў шок, па начах пасля крычала, бо сніласа мне, што тыя пракажоныя ўсё акружаюць мяне. То цешча дакарала мужа, што завёў мяне туды...

**— А як Ты там апраналася, пэўна ў сары...**

— Апранала сары на афіцыйныя нагоды. А паўсядзённа апраналася па-пенджабску: туніка, шаравары, шаль — усё з далікатнага матэрыялу; вельмі выгадная вопратка.

**— Сваё еўрапейскае адзенне таксама можна было апранаць, не выклікаючы сенсацыі?**

— Так, бо раней былі там рускія і да гэтага адзення людзі прывыклі.

**— Ці там, дзе Ты жыла, людзі карысталіся рыкшамі?**

— Так. Калі па бліжэйшыя пакупкі, то найвыгадней узяць рыкшу. А калі трэба паехаць далей, то матаровую рыкшу. І яны вельмі хутка ездзяць, бо ўсюды прабіваюцца.

**— Яшчэ спытаю пра такі абрад, якога ў нас няма, але ў Індыі ён паўсюдны: усіх, у прынцыпе, нябожчыкаў там спальваюць. Дзе Ты жыла, таксама спальвалі?**

— Так.

**— Ці прысутнічала Ты на такой крэмацыі?**

— Жанчыны на крэмацыю не ходзяць.

**— Ты прабыла ў Індыі дванаццаць гадоў. Што здарылася, што вы вырашылі з'ехаць у Польшчу?**

— Быў час, што людзі ехалі ў Лівію, гэтак з Індыі, як і з Польшчы. І муж згадзіўся на трохгадовы кантракт у электрастанцыі ў Трыпалісе. І мы задумалі, што я спачатку паеду з дзяцьмі ў Польшчу, бо даўно не была. У Трыпалісе працавала выдатная Delhi Public School, у якой сын меў прадаўжаць навуку. Мы прыляцелі ў Варшаву, а муж на другі дзень адправіўся ў Трыпаліс. У Індыі ўсё прадалі, у тым ліку і дом, які там сабе будавалі. Неўзабаве аказалася, што я з дзяцьмі не магу ехаць у Трыпаліс, бо мужа адразу забралі на пустыню, у Сахару — інакш, чым было запісана ў кантракце. Там была электрастанцыя, якая давала энергію для арашэння палёў на пустыні. Некаторыя індыйцы адразу вярнуліся, а мой муж паехаў, бо не было як у Індыю вяртацца. Пабыў там год і парваў кантракт. Заехаў у Польшчу і мы паехалі зноў у Індыю, дзе ўжо аформіў працу недалёка Дэлі. Сын год часу хадзіў у польскую школу, і яго там трэба было давучваць да індыйскіх патрабаванняў, давучвала яго знаёмая суседка. А на працы мужу не ладзілася і ён з тае працы адышоў.

У той час у Індыі адбываліся крывавыя падзеі. Сікхійскія ахоўнікі забілі прэм'ер Індзіру Гандзі, а гэта выклікала хвалю нянавісці да сікхаў, паўсюдна адбываліся іх крывавыя пагромы. І з мужам працавалі сікхі, якіх ён намовіў, каб для непазнакі агалілі свае бароды ды валасы і выехалі, бо баяўся за іх жыццё. Яны згадзіліся, абстрыгліся і выехалі, але фабрыку трэба было на нейкі час закрыць. Калі эмоцыі там прыціхлі, тады я паехала. Але ўжо мы рашыліся з'ехаць у Польшчу. Дадам яшчэ, што ў Індыі дзеля барацьбы з карупцыяй, кіраўнічы персанал часта пераводзяць з пасады на пасаду, з месца на месца. А ад гэтага церпіць сям'я, бо дзяцей трэба пераводзіць са школы ў школу, дзе розныя праграмы, і дзяцей трэба пастаянна давучваць. Яшчэ месяц пажылі мы ў мужавага брата, афармілі білеты. І прыехалі ў Польшчу.

**— І тут, у Беластоку, муж стаў на працу ў электрастанцыі. Адразу?**

— Не, трэба было прайсці моўныя курсы. Акурат Палітэхніка ладзіла такія курсы для чужаземцаў і муж там падвучыўся польскай мове. І на працы, калі не ведалі, як нейкую фразу напісаць, то жартавалі: „Ты, Сангар, свежа па курсе польскай мовы, то напэўна ведаеш як пісаць".

**— І Ты, як сюды вярнулася, стала на працу, у школе?**

— Сюды мы з'ехалі, калі я была ў шостым месяцы з трэцім дзіцём. І тры месяцы пасля родаў зайшла я ў Кураторыю, дзе працаваў мой знаёмы; муж ужо працаваў. І той знаёмы кажа: „Прыходзь ад заўтра". І з розных школ прапанавалі мне працу. Некалькі гадоў працавала кіраўніком школьнай святліцы, а пасля стала навучаць па сваёй спецыяльнасці — мастацтву.

**— А як дзеці тут асвойваліся ў школе, без клопатаў?**

— Дачка адразу пайшла ў нулявы клас. А сын пайшоў у трэці клас; у Індыі ён здаў у чацвёрты, але па ўзросце ён тут трапіў у трэці клас. Спачатку было цяжка, асабліва з польскай мовай, з вымаўленнем. На працягу года асвоіў вымаўленне, ды і з правапісам было не найгорш. Пачатковую школу закончыў з пасрэднай ацэнкай па польскай мове, але ўжо пад матуру меў выдатныя ацэнкі і быў звольнены з экзамену.

**— Адсюль, з Польшчы, ездзіце ў Індыю?**

— Муж ездзіў раней, а я, пакуль працавала, не магла, бо і дзяцьмі трэба было тут займацца. Але на пенсіі паехала.

**— А сюды з мужавай сям'і прыязджаў нехта?**

— Так, мужавага брата сын, з Амерыкі.

**— А вашы дзеці ўжо тут ужыліся?**

— Так, сын працуе тут у энергетыцы, старэйшая дачка ў фінансах, малодшая дачка ў Торуні, займаецца музейнай справай.

**— Дзякую за змястоўную размову і жадаю Тваёй сямейцы цёпленькага сонейка.**

Гутарыў Аляксандр ВЯРБІЦКІ

# ВАЙНА І ЧЫГУНКА (ч. IV)

## Успаміны Уладзіміра КЛІМЮКА, народжанага 18 лістапада 1923 года ў Цісоўцы, сына Іосіфа і Анастасіі.

Праца ў паравозным дэпо была невымоўна цяжкая. Трэба было выгружаць вугаль з вагонаў у перакульныя вузкакалейныя ваганеткі. Загрузіўшы ваганеткі, трэба было іх падапхнуць уручную пад кран, якім апераваў пажылы немец. Ён апускаў жалезны грэйфер, два клямары якога трэба было зачапіць за бакавыя балты ваганеткі, тады ён тую ваганетку паднімаў над тэндэр паравоза і высыпаў туды вугаль. Пустую ваганетку апускаў па другі пуць, адкуль яе зноў бралі для нагрузкі. Ваганеткі падчапляў адзін з рабочых, калі яны не былі напоўнены, ён ішоў грузіць іх. Пры перагрузцы вугалю працавала чатырох рабочых з такім разлікам, што за восем гадзін адзін рабочы перагружаў каля трыццаці тон. Паўбяды, калі вугаль быў у вялікіх кавалках, а пакутаваць прыходзілася тады, калі вугаль быў дробны, а падлога ў вагоне была драўляная, латаная, з мноствам тырчачых шруб і пакрыўленых цвікоў; трэба было напрацавацца каб выгарнуць з такой падлогі вугаль. Паравозы патрабавалі вугалю, некаторыя набіралі па 10 тон. Вярталіся пустыя з вайсковымі транспартамі і трэба было іх як найхутчэй заправіць у далейшую дарогу. Некаторыя машыністы, іх памочнікі, праваднікі паяздоў, кандуктары мелі выпрацаваных многа звышурочных гадзін, а гэта парушала правілы і пагражала бяспечнаму курсіраванню цягнікоў. Чыгуначнікі быліператомлены фізічна і псіхічна. Нам найбольш дакучалі дажджы, часта праліўныя, калі трэба было працаваць у прамоклай вопратцы, а лакаматывы чакалі адпраўлення ў дарогу. Вайскоўцы паганялі нямецкіх майстроў, а тыя былі бездапаможныя. Грузілі вугаль два краны, а прыдалося б яшчэ два.

На вузлавой станцыі пад адкрытым небам стаяла шмат паравозаў, не месціліся яны ў дэпо. Пры ачыстцы паравозаў працавала траіх рабочых. Паравоз стаяў над канавай, у якой былі пракладзены вузкалейныя рэйкі — па тых рэйках ездзіла ваганетка. Адзін рабочы ўваходзіў на паравоз, адкрываў дзверцы топкі і вялікай жалезнай качаргой чысціў яе: з каласніка выгортваў незгарэлы вугаль, камяні і попел. Пад каласнікам іншы рабочы адкрываў люк над ваганеткай і выгортваў усё тое, што не было прыдатнае для спальвання. Рабочаму на паравозе ўлетку горача, але можна вытрымаць. Затое рабочаму на канаве пад паравозам не было чым дыхаць: выгарнуты прысак і жар з топкі трэба было паліваць вадой са шланга, паднімалася густая пара, заходзілі ёю акуляры, нічога не было відаць. А бывала яшчэ, што ўздоўж канавы дзьмуў вецер у твар. А калі праточныя трубы былі запханы, то вада ад палівання не сцякала і трэба было хадзіць па косткі ў вадзе. Чыстку паравоза на канаве яшчэ неяк можна было вытрываць у летнія дні. Але калі зімою ў мароз і завіруху прыедзе паравоз, той лёд на ім і снег растае і ўсё ліецца чалавеку на галаву, на вопратку, паднімаецца такая пара, што і ад электралямпы нічога не відаць. Акуляраў зняць нельга, бо небяспечна для зроку, а ў акулярах нічога не ўбачыш. З некаторых паравозаў выгортвалі цэлую паўтонную ваганетку попелу. Такая праца руйнавала вочы і лёгкія, бо трэба было дыхаць паветрам атручаным прадуктамі згарання. Трэці рабочы адкручваў гідрант і naліваў у рэзервуар паравоза некалькі кубічных метраў вады. Наліўшы ваду, адчыняў дзверцы спераду паравоза і шуфелем выгортваў сажу і выкідаў на зямлю збоку. У пагодныя дні сажа паднімаецца ўверх, а калі гэтую работу прыходзіцца выконваць падчас віхуры ці завірухі, тады чалавек становіцца зусім чорны. Тут і ў акулярах дрэнна, а без акуляраў яшчэ горш. У акулярах выкідалася сажу ўсляпую, машынальна.

Пасля такой працы цяжка памыцца, часцінкі сажы ўбіваліся ў цела, а пасля шаснаццаці гадзін зноў трэба было вяртацца да гэтай работы. Гэтым рабочым даўжэйшы час не давалі падмены, не пераводзілі ў іншае месца. Мне таксама давялося працаваць у гэтай канаве, але нядоўга; майстар перавёў мяне на іншую работу. Новая работа была лёгкая, але я не шанаваў яе па ўласнай віне. Майстар даручыў мне абслугоўванне некалькіх паравозаў, што стаялі на канавах у цэху пад дахам са сценамі; летам там не было надта горача, а зімою не так холадна. Паравозы былі нарыхтаваны для адпраўлення ў назначаных гадзінах. Мне трэба было дапільнаваць, каб не пагас агонь у топцы і каб была вада ў помпе паравоза. Калі ў некаторых печах быў кволы агонь, трэба было падкінуць некалькі шуфеляў вугалю, дапампаваць ваду і на нейкі час быў спакой. Вольнага часу было шмат, тады можна было сесці ў фатэль машыніста і зважаць каб праз нейкі час зноў аглянуць лакаматывы, ці гатовыя да ад'езду. Была зіма, я зайшоў у апошні з даверaных мне паравозаў. У салоне машыніста было цёпла, фатэль быў новы, я сеў, задрамаў і заснуў моцным сном — можа з гадзіну або і больш. Прыйшоў машыніст з памочнікам і майстрам да паравоза, майстар крычыць, каб я выходзіў. Я хутка прабудзіўся і хацеў падарвацца на ногі, але ўпаў; мае ногі здранцвелі, мабыць у час сну я іх дрэнна падкуліў і не даходзіла да іх кроў. Пасля хуткага масажу я падняўся.



Вакзал ў Пагегах



Разводны мост у Тыльзіце

У той час яны заглянулі да топкі, а там агонь пагас, няма ў баку вады, помпа не можа працаваць. Узнікла сумятня, але было яшчэ крыху часу, прынеслі крыху жару з іншага паравоза, падсыпалі крыху вугалю, уключылі прадзімную трубку, каб раздзьмуць полымя. Удалося запусціць помпу і ў пару адправіць поезд. А мяне адправілі на ранейшую працу — да ачысткі лакаматываў. Майстар занадта на мяне не сварыўся, але падсведаміў мяне, каб пра выпадак далажыў я свайму начальству, бо магло б яно палічыць гэты выпадак за свядомы сабатаж, а вядома, што гэта абазначае ў ваенны час. Майстар, відаць, абмеркаваў, што калі б ён даў справе ход, то і яму было б туга за недагляд і абыякавасць. Слава Богу, выпадак гэты завяршыўся без вялікага шуму, а я вярнуўся да сваіх таварышаў працаваць вялікім шуфелем.

Позняй восенню 1943 года перад поўначчу працавалі мы нармальна, калі раптам пачулі выццё сірэн, усюды пагасла святло. Мы кінулі шуфелі і давай уцякаць як найдалей ад нашага дэпо. Адбеглі мо 300-400 метраў як пачулі гул самалётаў і стральбу бартавых кулямётаў. Глянулі ўверх, а там быццам ёлачкі свецяцца і павольі апускаюцца ўніз быццам парашуты. Яшчэ тыя свяцілы былі высока, а на зямлі было відно як у сонечны дзень. На тое асвятленне наляцелі бамбавозы, чуваць было цяжкі гул матораў і раптоўныя ўзрывы скінутых з тых самалётаў на зямлю бомб; ніводная з іх не пашкодзіла нашага дэпо. Мы ўжо збіраліся вяртацца на свае месцы, калі пачуўся гул тых самалётаў, што скідалі асвятляльныя бомбы, зноў чарга з кулямётаў... Пасля дзесяці мінут адазваліся сірэны, але ўжо іншым сігналам, абазначаючым, што небяспека мінула. Неўзабаве было ўключана святло ў паравозным дэпо.

Калі мы жылі ў Тыльзіце, выццё сірэн і гул самалётаў ноччу радавалі нас і мы нават не ўсведамлялі, што бамбёжка зямных аб'ектаў можа пазбавіць жыцця працоўных там прымусовых работнікаў з захопленых краін. Да нас цяпер асаблівa не прыдзіраліся. Аднойчы адзін рабочы сказаў майстру па-польску, што не можа падняць пяцідзесяцікілаграмавага мяшка цэменту. Той майстар ніколі не паказваў, што ведае польскую мову, але таму рабочаму акурат адказаў: „Poczekaj, ja ci pomogę!” і паказаў сваю дубінку, але не ўдарыў; той воляй-няволяй мусіў той мяшок з цэментам узяць і занесці ў назначанае месца. Адзін смуглявы рабочы па прозвішчы Панасюк, з-пад Ваўкавыска, браў два такія мяшкі пад пахі і нёс іх не паказваючы вялікай натугі; майстар не называў яго па прозвішчы, толькі па мянушцы Цыган. Працаваў з намі таксама рабочы па прозвішчы Кусы, з Ваўкавыска або Зэльвы быў ён; лагерфюрэр загадаў кухару, каб даваў яму падвойную порцыю ежы. Быў ён высокага росту, звыш 180 сантыметраў і важыў звыш ста кілаграмаў, працаваў ён не спяшаючы, роўна, меў ціхі характар — калі нехта і зажартаваў з яго, ён толькі ўсміхаўся.

У Ольштыне за работай мінула зіма, надыходзіла вясна і рабілася цяплей не толькі на прыродзе, але і на душы. З фронту даходзілі да нас штораз больш абнадзейваючыя весткі. Нават такі вясковы хлапец, як я, рабіў высновы на гэты конт, назіраючы за рухам вайсковых эшалонаў. Немцам не было ўжо да радасці, яны сталі штораз больш прыгнечанымі, бо ім пачынаў гарэць грунт пад нагамі на акупіраваных тэрыторыях і яны былі вымушаны адступаць. А нам час доўжыўся, хацелася хутка вызвалення ад прымусовай працы. Фронт быў ужо на захадзе Беларусі і я стаў думаць пра вяртанне да сям'і. Уцякаць пяшком у чужыне было небяспечна; немцы былі абавязаны дакладваць жандарам пра кожнага пабачанага чужога чалавека, а тыя з сабакамі хутка дагналі б уцекача і або смяротнае пакаранне, або цяжкі лагер. Склаў я сабе план уцёкаў у пачатку ліпеня 1944 года. Заехаў я поездам у Беласток і там пераначаваў у цёткі. Перада мною было найгоршае — дабрацца з Беластока да сям'і, якая тады жыла ў Цісоўцы каля Ялоўкі. У горадзе ў не надта раннюю пару можна было неяк прайсці ў тлуме. Але шашу трэба было мінаць, па ёй перамяшчалася многа войска на фронт і з фронту. Пайшоў я палявой дарогай і па той дарозе дагнаў хлопца і дзве дзяўчыны з Лешукоў. Мне гэта вельмі пасавала, бо я задумаў да вечара дайсці да Сушчы, што два кіламетры ад Лешукоў, і там пераначаваць у дваюраднай сястры. У час гэтай вандроўкі мы не надта з сабою гаварылі і я нават не пазнаў ні іхніх прозвішчаў, ні адкуль яны вяртаюцца. Найгорш было ісці незнаёмымі дарогамі, каля пяцідзесяці кіламетраў. Трэба было апасацца і немцаў, і некаторых нашых вясковых служакаў ворага, якія за добры данос атрымлівалі розныя падарункі. Па дарозе добрыя людзі раілі нам мінаць маёнтак Герaнімова, бо там маглі быць немцы. Трэба было зрабіць круг, але на вечар зайшлі мы ў Сушчу. Я астаўся начаваць, а мае спадарожнікі падаліся ў сваю вёску. Я быў так знясілены хадой, што нават не хацелася есці, хаця быў галодны; марыў я толькі, каб як найхутчэй трапіць у ложак і заснуць. Спаў я каменным сном аж да позняй раніцы. Пасля снедання падаўся я далей, у Багнюкі. Не пайшоў я на мост на Нарве, толькі напрасткі па сенажацях, а рэчку перайшоў уброд па пояс у вадзе. Спадарства Багнюкі прывіталі мяне радасна, накармілі, але аставацца ў іх было небяспечна, бо побач пралягала рухлівая дарога, з якой розныя людзі часта заходзілі да хат за рознымі справамі і запытаннямі. Пасля абеду рушыў я ў далейшую дарогу, якая была мне ўжо крыху знаёмай, да таго ж мяне напярэдзілі, якія месцы трэба абмінаць. Пад вечар, прайшоўшы звыш дзесяці кіламетраў, зайшоў я ў родную вёску і распытаў, дзе жыве спадар Ляшчук, у якога кватараваліся мае бацькі. Бацька ляжаў на ложку, я прывітаўся, а ён спытаў: „Гэта ты, Валодзя?” — не мог мяне зразу пазнаць. Неўзабаве прыйшла мама і браты, зараз абдымкі і слёзы радасці, што сын і брат вярнуўся пасля двух гадоў рабскай працы. Вярнуўся я дадому шчаслівa, але небяспека не мінула: у любы момант маглі завітаць немцы, бо ўжо чутна была кананада з абодвух бакоў фронту. Яны ўрываліся лёгкімі машынамі ў вёску і шукалі палявых дарог, а апошняя іх лінія, адступаючы, ставіла супрацьтанкавыя і супрацьпяхотныя міны на дарогах ды рвала масты і чыгуначныя лініі, разбурала іншыя аб'екты. На тых мінах узарвалася некалькі машын з экіпажамі.

(працяг будзе)

Спісаў Аляксандр ВЯРБІЦКІ



# Інспірацыі

**Напісаць гэтую адгалоску заінспіраваў мяне тэкст Мацея Халадоўскага «Час для нашага — для харошага». Не заінспіраваў мяне тэкст адгалоскі «Перапрашаю» Міколы Ваўранюка, хоць пяро, значыць, клавіятура камп'ютара, свярбела. Мікола Ваўранюк перапрашае Васіля Петручука, Ю. Хмялеўскага, Ю. Ляшчынскага і каго там яшчэ, што іх усіх не запісаў на камеру, але канкрэтна чаму не запісаў Васіля Петручука з тэксту «Перапрашаю» я не даведаўся. Ужо ўключыў я камп'ютар, каб запытаць тэлежурналіста чаму не запісаў В. Петручука, аднак карэспандэнцыі з пытаннем не выслаў, бо яшчэ і мяне стане перапрашаць.**

Пакуль што да нічога не інспіруюць рэпартажы ніўскіх журналістаў. Напрыклад, «Олень по бору ходіт — дзэсяты раз». Чытаць пра згаданае мерапрыемства можна няхай другі раз, але дзэсяты? Разумею яшчэ, калі б олень по бору бегаў, і калі б некага з Фіёнікавай кампаніі патурбаваў. А так? Гэта ўжо не пад сілу пастаяннаму чытачу «Нівы», калі і «wzrok nie ten, i sił brakuje».

Або чарговыя рэпартажы з чарговых фэстаў. За некалькі дзясяткаў гадоў для даследчыкаў-навукоўцаў «Ніва», пэўна, будзе багатай крыніцай ведаў пра культурнае і штодзённае жыццё выміраючай беларускай нацыі не толькі ва Усходняй Беласточчыне.

Але пакуль што прыйшоў «Час для нашага — для харошага». Прынамсі мне сэрца радуецца, калі чытаю, што «Хoroshe» Магдаліны Петрук мае шанц заваяваць не толькі Беласток і Падляшша, але і ўсю Польшчу «і выйсці за яе межы». Не толькі ідэя, але і бізнес. У цяперашні час такое спалучэнне і патрэбнае, і неабходнае. Найважнейшае, што ёсць ахвота нешта рабіць, і не чакаць невядома чаго. Відаць, што Магдаліна Петрук знайшла так званую нішу для свайго бізнесу. Так проста яе не знаходзім, трэба прыдумаць, павязаць факты і т.д. Цешыць, што Мацей Халадоўскі абшырна пра праект М. Петрук на старонках «Нівы» напісаў. Можа іншыя журналісты і карэспандэнты «Нівы» знойдуць, пакажуць, змястоўна і цікава апішуць іншыя праекты ініцыятыўных беларусаў.

А так пры нагодзе, ёсць мясцовасці і людзі, якіх можна змястоўна, а думаю што і трэба, паказаць на старонках тыднёвіка.

У чэрвені 2012 г. «Часопіс» змясціў мой ліст-адгалоску. Думаю, што чытачы «Нівы» павінны, на маю думку, пазнаёміцца з яго фрагментам:

„Że można coś pozytywnego zrobić dla ludzi, poprawić ich warunki życia, niech będzie przykład «rządzenia» wójta gminy Hajnówka, czy raczej wójtowej tej gminy. Wszystkie wsie tej gminy są połączone porządnymi drogami, nawet w najmniejszych wsiach są wiejskie świetlice. Tam gdzie ludzie chcą tworzyć coś więcej niż uprawiać ziemię, mogą liczyć na wsparcie gminy. Krótko mówiąc, infrastruktura została stworzona.

Szkoda, że tor kolejowy z Bielska Podlaskiego do Hajnówki nie został wykorzystany do zbudowania ścieżki rowerowej. Ścieżki, która łączyłaby nie tylko wymienione miasta, ale i wsie między sobą i z miastem. Byłaby to nie zwykła ścieżka rowerowa, ale ścieżka z pełną informacją dla turystów, że tacy by byli w to nie wątpię, o okolicznych miejscowościach zamieszkałych przez Białorusinów. Informacją o historycznej przeszłości, o możliwościach noclegowych i kulinarnych. Informacją w kilku językach, że np. w Mochnatym lub Starym Berezowie jest izba regionalna, w której zgromadzono materialne eksponaty z przeszłości i teraźniejszości, że można przenocować i zjeść smaczną kiszkę ziemniaczaną, pachnący ciemny chleb z masłem popijając mlekiem, a nawet kupić płytę z nagraniami miejscowego zespołu wokalnego lub wysłuchać na żywo pięknych pieśni białoruskich. Tak, to wszystko jest na wyciągnięcie ręki. A w Morzu, wsi leżącej blisko torów kolejowych, jest izba poświęcona żyjącemu w Białymstoku wielkiemu białoruskiemu poecie tej ziemi Wiktorowi Szwedowi, który właśnie urodził się w tej izbie, a obok, w Zbuczu, historyczny skansen obwałowań grodu średniowiecznego. A w Szczytach jest młodzieżowy ośrodek kultury białoruskiej.

W Starym Korninie słynna cerkiew, znana nie tylko z historycznych ozdrowieńczych przekazów, do której 7 sierpnia co roku pielgrzymują wierni z całej Białostocczyzny. I nie tylko. Jadąc w kierunku Hajnówki z Bielska mijamy z prawej strony wieś Dubicze Osoczne, położoną na byłej granicy między Koroną a Wielkim Księstwem Litewskim, granicy zgoła administracyjnej ustanowionej w 1569 r. Za granicą mieszkali Lićwiny, a przed granicą ze strony Korony — Podlasiacy. Lićwiny założyli na granicy dwie nowe wsie: Nowe Kornino i Nowe Berezowo, aby przynajmniej zachować nazwy z przeszłości.

A jak by ktoś chciał skręcić w lewo lub prawo, to takie możliwości już są: są oznakowane trasy rowerowe do Kleszczel czy Czeremchy na południe, czy do Narwi na północ, przez Równinę Bielską mijając całkiem zurbanizowane wsie, zatrzymując się w licznych kwaterach agroturystycznych.

Ile kosztowałaby budowa takiej ścieżki teraz, nie wiem. Od tego są planiści i włodarze tych ziem. Podsunąłem pomysł, jak można wykorzystać bogactwo tej ziemi i kultury. A jak zdobyć pieniądze z UE na realizację przedsięwzięcia, to wiedzą ci, którzy szczodrze już z nich korzystają".

Ідэя веласіпеднай сцежкі не дае мне спакою. Можа яшчэ камусь спадабаецца, заінспіруе? Таму вяртаюся да гэтай думкі.

**Міхась КУПТЭЛЬ**




Назва беларускага герба настолькі часта выкарыстоўваецца ў назвах арганізацый і выданняў, што ўзнікае думка аб мэтазгоднасці замены слова „беларусы" на „пагонеўцы". Газета „Пагоня" ў Гродне, Беларуска-амерыканскае задзіночанне „Пагоня", атрад беларускіх добраахвотнікаў „Пагоня" на Украіне, і вось цяпер грамадскае аб'яднанне „Пагоня" ў Празе. Канешне, „пагонеўцы" — гэта жарт, але ў ім ёсць частка праўды, калі беларусы па ўсім свеце так моцна трымаюцца свайго гістарычнага герба, то наўрад ці яго можна будзе вычысціць з памяці хоць якімі антыбеларускімі памкненнямі сённяшняга кіраўніцтва ў Мінску. І іншым разам падаецца, што менавіта старадаўняя „Пагоня" спрыяе справе захавання беларушчыны ў розных кутках зямлі.

Існаванне вышэйпамянёнай суполкі „Пагоня" ў Празе неяк абсалютная натуральна для горада, які значыў і значыць вельмі многа для беларусаў. Адно тое, што там калісьці працаваў Францыск Скарына, надае яму нейкае сакральна-беларускае адценне. І гэта не кажучы пра вялікую эміграцыйную хвалю беларусаў, якія апынуліся там пасля Другой сусветнай вайны. Эмігранты з сучаснай Беларусі з'яўляюцца асноўнай масай аб'яднання „Пагоня" цяпер. Пра гэта сведчыць інфармацыя на яго сайце, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://pahonia.cz.

„Вітаем вас на нашым новым сайце! Цудоўна атрымалася так, што амаль адначасова ў суполкі „Пагоня" з'явілася і новае памяшканне, і новая інтэрнэт-старонка. Як і новае памяшканне, гэтая старонка пакуль што знаходзіцца на стадыі дапрацоўкі, але мы спадзяемся, што вам будзе цікава азнаёміцца з той інфармацыяй, якая тут ужо размешчана. У сваю чаргу абяцаем перманентна ўзбагачаць кантэнт новымі матэрыяламі. Завітвайце да нас часцей, будзем рады кожнаму госцю!" — заклікае на галоўнай старонцы сайта яго адміністрацыя.

Да гонару ўладальнікаў сайта варта адзначыць, што падыходзяць яны да яго абнаўлення даволі дбайна. Нягледзячы, што некаторыя старонкі пакуль застаюцца пустымі — так нічога няма ў раздзелах „Кнігі", „Відэа", „Аўдыё", „Мапы", „Файлы", у рубрыцы „Навіны" падаецца актуальная інфармацыя.

Сайт мае прыгляды, насычаны інфармацыяй выгляд. Розныя ўпрыгожанні і аздабленні прыцягваюць увагу наведвальнікаў спакойнай пазітыўнасцю выгляду.

Асаблівасцю сайта з'яўляецца нязвыклае размяшчэнне выйсцяў да розных рубрык. Яны месцяцца амаль што паўсюль — з правага і левага бакоў і ўнізе выяўлення. Прычым дублюючых выйсцяў там няма.

Сябры суполкі, па ўсім відаць, людзі вельмі сціплыя і неганарлівыя. Такую выснову можна зрабіць, зважаючы на тое, што выйсце на старонку з інфармацыяй аб іх убачыш толькі пры вялікім жаданні. Яно месціцца ўнізе і пазначана маленькімі літарамі. Згодна пададзенай інфармацыі, „Пагоня" — непалітычная арганізацыя, якая гуртуе беларусаў Чэхіі. Яна была створана ў 2006 годзе, а галоўнай мэтай яе існавання прызнана пашырэнне беларускае культуры на тэрыторыі Чэшскай Рэспублікі.

Сайт аб'яднання сведчыць аб тым, што суполка працуе даволі актыўна, але найбольш прыемным бачыцца існаванне пры ёй нядзельнай школкі для дзяцей, дзе яны вывучаюць беларускую мову.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара



### Апостал нацыянальнага адраджэння

### 95 гадоў з дня смерці Івана Луцкевіча

Беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, публіцыст, археолаг, пачынальнік беларускага нацыянальнага руху Іван Луцкевіч нарадзіўся 9 чэрвеня 1881 г. у Шаўлях (цяпер горад Шаўляй у Літве). Паходзіў са шляхецкага роду герба „Навіна" з сям'і ўдзельніка паўстання 1863 г. Разам са сваім братам Антонам стаяў ля вытокаў нацыянальнага беларускага станаўлення, якое пазней было названа „нашаніўскім перыядам".

Іван Луцкевіч пачаў вучобу ў 1890 г. у Лібаўскай гімназіі, у 1897-1902 гг. навучаўся ў Мінскай гімназіі. У 1905 г. скончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, паралельна ў 1902 г. — Маскоўскі археалагічны інстытут. У 1903 г. стаў адным з заснавальнікаў Беларускай рэвалюцыйнай грамады (пазней Беларуская сацыялістычная грамада). За палітычную дзейнасць у 1903 г. трапіў у астрог. У 1904-1905 гг. працягваў вучобу ў Венскім універсітэце. Актыўна ўдзельнічаў у рэвалюцыйных падзеях 1905 г. у Мінску. Пад пагрозай арышту выехаў у пачатку 1906 г. у Вільню, дзе да 1908 г. быў на нелегальным становішчы.

Паводле ініцыятывы Івана Луцкевіча ў Вільні выдаваліся беларускія газеты „Наша доля" і „Наша Ніва", створаны кнігавыдавецкія суполкі „Наша хата" (1908) і Беларускае выдавецкае таварыства (1913), а ў 1916-1918 гг. выходзіла газета „Гоман". У 1916-1920 гг. па яго ініцыятыве ў Вільні адкрываецца Беларускі клуб, вакол якога гуртуецца аматарская драматычная дружына пад кіраўніцтвам Францішка Аляхновіча. У 1919 г. паводле ініцыятывы Івана Луцкевіча ў Вільні адбылося адкрыццё першай беларускай гімназіі, дзе ён выкладаў краязнаўства і беларусазнаўства.

Іван Луцкевіч выступаў за аднаўленне ў Беларусі царкоўнай уніі дзеля яднання рэлігійнага і грамадска-палітычнага руху ў адзіным нацыянальна-адраджэнскім працэсе. Ён аўтар навукова-публіцыстычных прац па гісторыі, мастацтве, кніжнай культуры Беларусі. Аўтар аповесці „Дым і попел" — апісання знойдзенай ім рукапіснай кнігі беларускіх татараў „Аль-Кітаб" — помніка старабеларускай літаратуры XVI ст., які напісаны арабскай графікай. Акрамя свайго прозвішча пісаў таксама пад псеўданімамі Ян Міхальчык, Нашанівец, Шчасны, Palissander Нев.

Іван Луцкевіч — змагар за незалежную Беларусь. Быў адным з першых, хто зразумеў неабходнасць дзяржаўнай незалежнасці Бацькаўшчыны і разам з братам Антонам стаў ініцыятарам абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

У калекцыях Івана Луцкевіча былі рэдкія экспанаты, якія пазней сталі асновай створанага ў 1921 г. першага Беларускага нацыянальнага музея ў Вільні.

Луцкевіч-старэйшы цяжка хварэў на сухоты. Яго каханая Юліяна Мэнке ў 1919 г. змагла завезці яго на курорт у польскае Закапанэ, але было ўжо позна. Памёр 20 жніўня 1919 г. у Закапаным (Польшча). Магілу Івана Луцкевіча выкраслілі з рэестраў прыблізна ў 1963 г. Парэшткі Івана Луцкевіча былі прывезены з Польшчы ў 1991 г., сімвалічнае перапахаванне адбылося на віленскіх могілках Росы. У сённяшняй Беларусі ні Іван Луцкевіч, ні яго брат Антон, які згінуў у савецкім канцлагеры, не ўшанаваныя ніяк.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

1 ☞ працяг

# XX Спасаўскія запусты

У 1994 годзе па маёй ініцыятыве быў створаны грамадскі рух, з якога паўстаў выбарчы камітэт «Бельская кааліцыя», у які ўвайшлі перш за ўсё Беларускі камітэт, Саюз украінцаў, Саюз левых дэмакратаў і Унія працы. На 28 месц у радзе горада мы ўвялі ажно 18 сваіх радных і атрымалі перавагу над правымі групоўкамі. Аднак яны блакіравалі выбар нашага кандыдата на пасаду бурмістра горада і ажно за пятым разам удалося выбраць бурмістрам Бельска Андрэя Сцепанюка (кіраваў горадам два тэрміны — А. М.), які разам са Славамірам Іванюком найбольш ангажаваліся ў працу «Бельскай кааліцыі» — прыгадаў Васіль Ляшчынскі, галоўны арганізатар Беларускага выбарчага камітэта, а пасля «Бельскай кааліцыі», былы старшыня Рады горада, а пасля віцэ-старшыня Рады Бельскага павета. — Калі з нашай кааліцыі ў 2002 годзе выступіла СЛД, а пасля ўкраінцы, ужо ніколі бурмістр Бельска не меў стабільнай падтрымкі ў Радзе горада. Зараз у «Бельскую кааліцыю» вярнуліся ўкраінцы і вядуцца перамовы аб згуртаванні ў кааліцыі іншых асяроддзяў.

— Самаўрадавае аб'яднанне «Бельская кааліцыя», якое мы зарэгістравалі ў 2012 годзе, гэта была патрэба часу. Мы хочам мяняць воблік Бельска-Падляшскага і цэлага Бельскага павета сілай актыўнага мясцовага грамадства. «Бельская кааліцыя», якую падтрымліваюць розныя асяроддзі, прадстаўнікі адміністрацыі, людзі культуры, настаўнікі, прадпрымальнікі і асобы розных прафесій, адкрытая на супрацоўніцтва з партыямі і арганізацыямі, якія дзейнічаюць у нашым павеце, каб будараць сілу і дабрабыт Бельска і павета, — сказаў віцэ-стараста Пётр Божка, старшыня Самаўрадавага аб'яднання «Бельская кааліцыя».

Бельскую публіку падчас «Спасаўскіх запустаў» сваімі выступамі захапілі дзеткі з беларускага калектыву «Лянок» Непублічнага прадшколля імя дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім. Развучваюць яны беларускія песні пад наглядам Марты Зінкевіч і Іаанны Хількевіч, якія займаюцца ў Бельску таксама з іншымі калектывамі і хорам. Удала перад сабранымі запрэзэнтаваўся хор Дома праваслаўнай культуры, якім дырыжыруе менавіта Марта Зінкевіч. На юбілейным мерапрыемстве займальна запрэзэнтаваліся таксама бельскія беларускія маладзёжныя калектывы — «Капрыс» з бельскай «тройкі», якім апякуецца Анна Вярцінская і «Вянок» з Бельскага белліцэя, які амаль дзесяць гадоў дзейнічае пад наглядам Іаанны Хількевіч, спачатку ў «тройцы», а зараз у белліцэі. Гурт «Астэрыя» Дома праваслаўнай культуры ў Бельску (апякуецца ім Анна Фіта) захапіў сабраных сваёй моцнай песняй пра Беларусь. Сярод публікі прысутны быў намеснік бельскага праваслаўнага дэкана, настаяцель Прачысценскага прыхода і заадно дырэктар Дома праваслаўнай культуры, айцец Юры Багацэвіч. З песнямі на розных мовах дастойна выступіў хор Універсітэта трэцяга веку з Бельска. Удала выступілі таксама калектывы «Луна» з Парцава і «Тры пальцы» з Орлі (астатні запрэзэнтаваў беларускія творы ў арыгінальнай апрацоўцы). Народны калектыў «Хмелеўскія валацугі» з Хмелева выступіў з багатай забаўляльнай праграмай.

Апошнімі гадамі ў рамках «Спасаўскіх запустаў» ладзяцца канцэрты ў выбранай вёсцы Бельскага павета. У гэтым годзе беларускі канцэрт быў наладжаны ў Тапчыкалах Арлянскай гміны. Запрэзэнтаваліся там «Малінкі» з Маліннік, «Арляне», «Вэрвачкі» і «Тры пальцы» з Орлі, а таксама замежныя «Хмелеўскія валацугі» з Хмелева. Сярод публікі былі арлянскі войт Пётр Сэльвесюк, таксама прадстаўнік «Бельскай кааліцыі», і бельскі віцэ-стараста Пётр Божка.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

Абрад «Зажынкі» ў выкананні ўдзельнікаў тэатральных калектываў «Антракт» і Тэатр «Рэтра»

Калектыў «Вянок» Бельскага белліцэя

Беларускія народныя песні выканалі «Васілёчкі»

# Адгаданка

1. палова дыялога, 2. праём у сцяне для хадзьбы, 3. конскі „нашыйнік”, 4. старажытнарымскі паэт, аўтар „Метамарфоз”, 5. водбліск пажару на небе, 6. туалетнае рэчыва для мыцця, 7. пакаёвая печ з шырокай адкрытай топкай, 8. член каталіцкага манаскага ордэна Таварыства Ісуса, 9. гумавы дыск для гульні ў хакей, 10. кіруе лятальным апаратам, 11. споравая расліна, якая расце ў сырых месцах, на дрэвах, камянях, 12. англійскі горад у графстве Дэрбішыр, 13. нецялесны ўнутраны свет чалавека, 14. рэчка і мястэчка ў Бешанковіцкім раёне.

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | | | | | | 3 | | | | 4 | | |
| | | | | 5 | | | | | 6 | | | | |
| | | | | 7 | | | | | | 8 | | | |
| | | | | 9 | | | | | | | | | |
| | | | | | 10 | | | 11 | | 12 | | 13 | 14 |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 31 нумара**

Балея, бык, Вац, гной, Дон, дыля, Зізаній, Лінц, рыза.

Рашэнне: **І на здаровай яблыні гнілы яблык знойдзецца**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 24.08 — 30.08

**Баран (22.03. — 20.04.)** Твой партнёр цябе задзівіць; калі ўспрымеш гэта з энтузіязмам, шмат здабудзеш. Наладзіш знаёмства з асобай незвычайнай і прывабнай, ад якой шмат навучышся (не мяшай да гэтага фінансаў). Вельмі добры час на лячэнне і рэгенерацыю; парабі неабходныя працэдуры, схадзі да дантыста, цырульніка. Але 27-31.08. не пачынай новых праектаў.

**Бык (21.04. — 21.05.)** Магчымы хаос у пачуццях і сувязях (з-за маладзіка Месяца 25.08.); супольны адпачынак перакладзі на верасень. Абдумана выдаткуй грошы. 24-29.08. будзеш рассеяны і малаэфектыўны. Дастасоўвайся да сітуацыі.

**Блізняты (22.05. — 22.06.)** Будзеш усё шукаць дзіры ў цэлым. Атмасфера недаверу не ідзе к дабру! Спаткайся з раднёй. У лячэнні спрабуй неканвенцыянальнай медыцыны. Будзеш мець ахвоту выдаць грошы — прытармазі, неўзабаве паявяцца непрадбачаныя выдаткі. Карысныя змены на працы; дадатковы заробак або змена пасады — не адмаўляйся.

**Рак (23.06. — 23.07.)** Маладзік Месяца (25.08.) адорыць цябе сілай пераканання і інтуіцыяй. Завершыш справы, што валакліся месяцамі. Разлічвай на дапамогу сваіх калег, якія падтрымаюць цябе не толькі парадай і задумамі, але і працай. Будзеш прагны да ласункаў — бараніся, бо надоўга паправішся.

**Леў (24.07. — 23.08.)** Пагаршэнне настрою і паніжэнне вітальных сіл. Не плануй ніякіх аперацый, бо раны будуць доўга гаіцца. Прымі пад увагу болі галавы і стрававальнага шляху, схадзі да лекара. Ільвы народжаныя пасля 15.08. няхай дбаюць аб сваю дыету (ежце рыбу, арэхі, цытрусы). На працы будзеш творчы. Знайдзі час на адпачынак.

**Дзева (24.08. — 23.09.)** Нармалізуюцца лады ў пары. Прыліў пачуццяў (як у тваім сэрцы, так і ў сэрцы партнёра). Самотная Дзева няхай цэлебруе адзіноту; гэты стан неўзабаве зменіцца. Адбудзецца важная, доўга перакладваная размова; адкрые яна табе вочы на шмат спраў. Трымай эмоцыі на павадку, каб чагосьці не прапусціць. Не падпісвай дамоў, не інвестуй грошай, бо горка пашкадуеш.

**Шалі (24.09. — 23.10.)** Многа захапляючых сітуацый для сардэчных спраў. А Шалі занятыя будуць мець раскошны спакой і поўнае адабрэнне. Але сярод сяброў асоба са знаку Казярога ці Барана спрабуе ўнесці замяшанне (27-31.08.). Развяжаш старыя канфлікты з далейшымі сваякамі або з раднёй. Будзеш крыху аслаблены — магчымыя праблемы з кровазваротам, беражыся ад спёкі, пі многа вады, высыпайся. 24-28.08. зблізішся да кагосьці на працы, з ім разгорнеш крылы. Але 25-29.08. не ўдайся ў канфлікт, бо прападзеш на ўсёй лініі; адчакай.

**Скарпіён (24.10. — 22.11.)** Калі ты заблытаны ў не вельмі шчаслівую сувязь, 24-26.08. можаш пачуць вельмі балючыя словы. А калі ты ў пары, якая мае крызіс за сабою, цешся — перажыванне цяжкіх хвілін жыцця яднае і дае шанцы на новы пачатак. Хадзі на шпацыры, ездзі на ровары, спрабуй практыкаванняў ёгі. Можаш дабіцца павышэння, цікавай прапановы працы. Але 27-30.08. не дай сябе падмануць!

**Стралец (23.11. — 22.12.)** 23-27.08. твая краса і акаляючая цябе жарсная атмасфера дазволяць табе зачараваць каго хочаш. Сустракайся са сваякамі, якіх даўно не бачыў. 24-28.08. вельмі пільнуй кашалька і дакументаў, папрасі, каб суседзі кінулі вокам на твой дом.

**Казярог (23.12. — 20.01.)** Каса будзе цябе найбольш матываваць. Будзеш знакамітым арганізатарам і лідарам, з добрай рукой да грошай. Можаш штосьці добра купіць, знайсці ў банку карыснае капіталаўкладанне. Але вельмі пільнуйся ад дарадчыкаў, бо некаторыя схочуць цябе ўтапіць (26-31.08.). 24-28.08. паявяцца канфлікты з людзьмі. Будзеш празмерна ўражлівы і плаксівы; еж магній, свежую гародніну і садавіну.

**Вадалей (21.01. — 19.02.)** 23-27.08. — веды і нагоды для навукі новага і знаёмства з новай асобай, якая адменіць тваё жыццё. Даўно спараваных Вадалеяў чакае ідылія. Пачуццё спакою і задавальнення ад прабывання з блізкімі, асабліва з маладымі.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** Добры час у Рыб у сужонствах, усё абернецца ў добры бок, толькі не калькулюйце, што будзе вам выгадна. Адзін з сяброў пакажа рогі і можаш у ім расчаравацца, але ўсё высвятліце. Суцішы эмоцыі; практыкуй дыханне, пацікаўся ёгай. 27-31.08. паслабленне вітальных сіл, адпачывай на ўлонні натуры. 23-27.08. у фінансах мілыя неспадзяванкі; добра ўкладзі грошы або запішыся на цікавыя курсы. Будзе больш абавязкаў — справішся з імі і павысіць гэта твой рэйтынг сярод калег і кіраўніцтва.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 000 egz.

Да 130-годдзя з дня нараджэння пісьменніка, літаратуразнаўца, бібліятэказнаўца, кандыдата педагагічных навук **Яўгена Хлябцэвіча (1884-1953)**

# Сябар Купалы, Коласа, Цёткі і Багдановіча

**Летам 1946 года ў Маскве, у доме № 6 па Срэценскім бульвары раздаўся званок. У гэтым доме тады жыў вучоны сакратар бібліятэчнага інстытута Яўген Хлябцэвіч. У госці да яго з Мінска прыехаў гісторык, кандыдат сельскагаспадарчых навук Фёдар Дамінікоўскі (1905-1949). Той Фёдар Дамінікоўскі, які працаваў у Цэнтры хімічнай лабараторыі Беларускага НДІ сельскай і лясной гаспадаркі, а са жніўня 1943 года быў загадчыкам кафедры геалогіі і глебазнаўства БДУ, вучоным сакратаром савета ўніверсітэта, які даследаваў гісторыю навукі і культуры Беларусі, з'яўляўся аўтарам больш як 200 артыкулаў біябібліяграфічнага слоўніка «Выдатныя дзеячы беларускай зямлі» (1945-1947 гадоў;рукапіс захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі — С. Ч.).**



Яўген Хлябцэвіч. Мастак Анатоль Крывенка, алей

Яўген Хлябцэвіч шчыра сустрэў земляка. І Фёдар Дамінікоўскі папрасіў гаспадара падзяліцца ўспамінамі аб сустрэчах з дзеячамі беларускай культуры. Свае ўспаміны Яўген Хлябцэвіч пачаў так: «Вы хочаце пачуць расказ пра маю маладосць, пра нашу маладосць. То тады, калі я сустракаўся з Коласам, з Купалам, з Цёткай, нам было па 25-30 гадоў. Усё гэта тут у гэтых дакументах, на здымках і ў пісьмах. Маё дзяцінства прайшло ў канцы мінулага стагоддзя (маецца на ўвазе канец XIX стагоддзя. — С. Ч.) у Жыровічах, што стаяць на беразе Шчары, недалёка ад Слоніма. І да нашых часоў захаваліся там помнікі беларускага дойлідства. У духоўным вучылішчы мой бацька Іван Андрэевіч выкладаў арыфметыку і геаграфію. Але галоўным яго клопатам і заняткам была слынная жыровіцкая бібліятэка. Там зберагаліся рукапісныя беларускія кнігі з адмысловымі ілюстрацыямі і летапісы. Бацька склаў падрабязны каталог, упарадкаваў і ашчадна захоўваў гэтыя скарбы. Дзе ж яны зараз знаходзяцца? Ці ўцалелі? Я падлеткам часта прыходзіў у бібліятэку і бачыў усё гэта на свае вочы. Бацька вельмі цікавіўся гісторыяй Беларусі, апантана даследаваў жыровіцкія рукапісы. А яшчэ меў і літаратурны талент. У віленскіх часопісах друкаваў артыкулы і гістарычныя нарысы. Сям'я наша была вялікая, шасцёра дзяцей. Лёс кожнага склаўся своеасабліва, але ўсіх паклікаў рэвалюцыйны час...».

Спачатку Яўген Хлябцэвіч распавёў Фёдару Дамінікоўскаму пра свайго меншага брата Уладзіміра Хлябцэвіча, які загінуў у лютым 1917 года ў Петраградзе ва ўзросце 22-х гадоў, калі ратаваў параненых людзей. Пахавалі Уладзіміра ў Сызрані (Расія), дзе, як бежанцы, жылі яго бацькі. Дарэчы, пасля Жыровіч сям'я Хлябцэвічаў пераехала ў Кленікі на Беласточчыну. Пра Кленікі перад бежанствам у час Першай сусветнай вайны Уладзімір Хлябцэвіч напісаў артыкул, які быў надрукаваны, дзякуючы Віталю Скалабану і Дарафею Фіёніку ў выданні «Białoruskie Zeszyty Historyczne» (№ 2 ад 1995 года). 25 верасня 1915 года, пасля таго, як разам з маці і бацькам Уладзімір Хлябцэвіч падаўся з Кленік у бежанства, ён роднаму брату Яўгену пісаў: «Усе вёскі гарэлі пры непрысутнасці нашых людзей. Кнігі (10 скрыняў) закапаны ў вельмі надзейным месцы. Там тваё ўсё. Закапвалі я і Маліш. Твае рукапісы пра беларускіх пісьменнікаў і лісты іх тожа былі схаваныя там, у скрынях. Я ведаю дзе..." («Białoruskie Zeszyty Historyczne», 1995, № 2 (4), с. 135). Гэтыя скрыні ў вёсцы Кленікі на Беласточчыне шмат гадоў шукала настаўніца беларускай мовы і літаратуры мясцовай школы Марыя Базылюк (Марылька — як яе ласкава называлі вяскоўцы і беларускія літаратары ў Польшчы). У гэтых скрынях захоўваецца невядомы літаратурны скарб Хлябцэвічаў. І Марыя Базылюк яго шукала, а таксама сама даследавала творчасць Яўгена Хлябцэвіча. Яна нават напісала, калі была студэнткай, магістарскую дысертацыю на тэму «Жыццё і дзейнасць Яўгена Хлябцэвіча на фоне перыяду „Нашай нівы"», якая была апублікавана ў кнізе яе памяці «Марылька» (Беласток 2011). Але так склаўся лёс, што гэтых скрыняў Марыі Базылюк знайсці не ўдалося. Яе зламала хвароба ў 1996 годзе ва ўзросце 38 гадоў.

Цікава, якія рукапісы Яўгена Хлябцэвіча ляжаць у тых скрынях? Пісьмы якіх пісьменнікаў захоўвае гэты скарб на Беласточчыне? Можа, там лісты ад Янкі Купалы, Цёткі, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Горкага? Ён шчыра з імі сябраваў, сустракаўся, перапісваўся. Цяпер цяжка сказаць, хто той скарб адшукае. І ці адшукаецца ён наогул. Усё ж прайшло з таго часу сто гадоў.

Да сённяшніх дзён пад адну вокладку так і не сабрана, і не выдадзена спадчына Яўгена Хлябцэвіча. А напісана ім было вельмі шмат. У Коўне ў 1912 годзе выйшла з друку яго першая кніга «Бібліятэка і кааперацыя», дзе аўтар разглёдзеў пытанні тэорыі і арганізацыі бібліятэчнай справы. У Пецярбургу свет пабачылі ягоныя працы «Адраджэнне беларускай народніцкай літаратуры» (1914), «Народніцкая паэзія беларусаў» (1917), у якіх малады беларускі крытык прааналізаваў вытокі і характар беларускага мастацкага слова, даў высокую ацэнку творчым пошукам Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Багдановіча. А ў маскоўскіх выдавецтвах з'явіліся яго кнігі «Масавы чытач і антырэлігійная прапаганда» (1928), «Масавы чытач і праца з кнігаю» (1936).

Яшчэ ў Пецярбургу Яўген Хлябцэвіч пасябраваў з Янкам Купалам. Пясняр часта наведваў не толькі беларускія вечарынкі, але бываў і на розных рэпетыцыях. Ён удзельнічаў у рабоце беларускага студэнцкага навуковага гуртка, слухаў даклады пра Беларусь, часам чытаў свае вершы. Аднойчы Янка Купала перадаў Яўгену Хлябцэвічу верш «Прарок», прысвечаны гэтаму студэнцкаму гуртку.

Вельмі часта наш зямляк і Янка Купала гулялі па ўзбярэжжы Нявы, бывалі адзін у аднаго ў гасцях. Іх апошняя сустрэча адбылася ў 1930 годзе ў Маскве ў камуністычнай акадэміі, калі адзначаўся юбілей Купалы. Пасля трагічнай смерці народнага песняра Яўген Хлябцэвіч быў адным з першых, хто прыйшоў на дапамогу Уладзіславе Францаўне Луцэвіч у справе стварэння Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Мінску. Ды і пры жыцці Янкі Купалы Яўген Хлябцэвіч рашуча выступаў у абарону песняра ад шматлікіх несправядлівых абвінавачванняў беларускай вульгарна-сацыялагічнай крытыкі 1930-х гадоў.

Пасля вайны ў беларускім друку з'явіліся ўспаміны Яўгена Хлябцэвіча пра беларускага песняра. Найперш гэта артыкулы «Янка Купала ў Пецярбургу» («Беларусь», 1945, № 2), «Янка Купала на пецярбургскіх агульнаадукацыйных курсах А. С. Чарняева» («Беларусь», 1946, № 8), «Янка Купала і Пецярбургскі ўніверсітэт» («Беларусь», 1947, № 9), «Пісьмо Янкі Купалы ў газету „Новая Русь" і ўдзел у ёй Л. М. Талстога» («Полымя», 1953, № 9) і іншыя.

У шчырых адносінах Яўген Хлябцэвіч быў і з Якубам Коласам. Пазнаёміўся ён з ім завочна тады, калі працаваў выкладчыкам бібліятэчнага тэхнікума ў Кіраве. Падчас Другой сусветнай вайны Яўген Хлябцэвіч выступаў з лекцыямі ў шпіталях сярод параненых. Воіны-беларусы прасілі пачытаць вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа на беларускай мове. Па дапамогу наш зямляк звярнуўся да Якуба Коласа. Народны паэт хутка адгукнуўся на просьбу Яўгена Хлябцэвіча. Яны сталі перапісвацца, і такое сяброўства працягвалася дзесяць гадоў.

Перапісваўся Яўген Хлябцэвіч і з Максімам Багдановічам. Як сцвярджаў Віталь Скалабан, даследчык творчасці Яўгена Хлябцэвіча, «чатыры лісты Багдановіча да Хлябцэвіча захоўваліся напярэдадні вайны ў Акадэміі навук БССР. Мусіць, іх перадаў яшчэ ў 1920-я гады ў Інбелкульт сам адрасат Яўген Хлябцэвіч. Ці пакінуў ён копіі Багдановічавых лістоў у асабістым архіве? Адказаць на гэта пытанне пакуль цяжка...» («Літаратура і мастацтва», 24 жніўня 1984 г.). А можа, копіі гэтых пісем, а таксама іншыя пісьмы Багдановіча да Хлябцэвіча ляжаць на дне тых 10 скрыняў, што закапаныя на беластоцкай зямлі?..

Яўген Хлябцэвіч нарадзіўся 6 жніўня 1884 года ў вёсцы Жыровічы Слонімскага павета.

У 1897 годзе сям'я Хлябцэвічаў пераехала ў вёску Кленікі Бельскага павета, дзе Іван Хлябцэвіч стаў працаваць свяшчэннікам. Тут ён арганізаваў некалькі пачатковых школ, быў загадчыкам бясплатнай народнай бібліятэкі. А ягоны сын Яўген Хлябцэвіч у 1900 годзе скончыў Жыровіцкае духоўнае вучылішча, а пасля Віленскую праваслаўную духоўную семінарыю. Жывучы ў Вільні, Яўген Хлябцэвіч пазнаёміўся з беларускай інтэлігенцыяй, актыўна ўключыўся ў беларускі нацыянальна-вызвольны рух. Падтрымліваў цесныя сувязі наш зямляк і з рэдакцыямі беларускіх газет «Наша доля» і «Наша ніва», дасылаў свае допісы, многія з іх падпісваў псеўданімам Халімон з-пад пушчы. Найперш гэта былі інфармацыі на тэмы культуры і адукацыі. Вось што пісаў Халімон з-пад пушчы ў «Нашай ніве» 1 лютага 1908 года: «У вёсцы Кленікі Бельскага павета 12 студзеня быў тут сельскі сход аб бібліятэцы-чытальні імя Паўленкава. Сход шоў так, што стыд і сорам за яго ўсім мужыкам тутэйшым! І хто мог бы паверыць, што грамада сталых людзей паслухае аднаго п'янага мужыка? А гэта і зрабілася на сходзі, дзе слухалі аднаго п'янага мужыка, што даводзіў: „На што нам бібліятэка? Усе роўна кнігі не мае. Лепш куплю за 5 злотых псалтыр, дык будзе ў мяне назаўсягды!". Бібліятэка-чытальня ледзьве толькі пачала шырыць вакруг свой ясны сьвет, сеяці зерне дабра, праўды і навукі. І вось ужо людзі пачынаюць таптаць гэтую вялікую работу. Выходзіць, што гутарка п'янюгі нашым мужыкам з Клебаноў і Загадзя даражэй за дзетак, каторыя бяруць з бібліятэкі кніжкі. Зразумейце, людцы, што бібліятэка будзе для вас карысна, калі яе будзеце падтрымліваць. Цяпер усяго 500 кніжак, а трэба да іх парабіць акладкі, каб не растрэсліся і не парваліся. Вось жа і сам нябожчык Паўленкаў пакінуў пасля смерці ўсё дабро і кніжкі свае, каб даваць помач народным бібліятэкам, але з тым варункам, каб і самы мужыкі давалі крыху грошай на ўтрыманне бібліятэк. Паўленкаў дае кніг больш як на 100 рублёў, калі дадуць на бібліятэку 50 рублёў самы мужыкі».

У 1906 годзе Яўген Хлябцэвіч стаў студэнтам Юр'еўскага ўніверсітэта, а праз год перавёўся ў Пецярбургскі ўніверсітэт. Тут ён рэдагаваў «Кніжны і бібліятэчны лісток» пецярбургскай газеты «Новая Русь», дзе дапамог на яе старонках друкавацца Янку Купалу.

Будучы студэнтам, Яўген Хлябцэвіч выступаў на Першым Усерасійскім з'ездзе па бібліятэчнай справе з дакладам «Развіццё бібліятэчнай справы на Беларусі». А калі закончыў універсітэт, працаваў інструктарам Беларускага пададдзела аддзела асветы нацыянальных меншасцей Народнага камісарыята асветы РСФСР у Кіеве.

У 1919 годзе атрымаў новую пасаду — ён стаў узначальваць бібліятэчнае аддзяленне Палітычнага ўпраўлення Рэвалюцыйнага ваеннага савета РСФСР, а пасля перайшоў у Народны камісарыят асветы.

З 1943 года Яўген Хлябцэвіч працаваў у Маскоўскім бібліятэчным інстытуце, шмат пісаў, абараніў кандыдацкую дысертацыю. У Маскве і пражыў ён свае апошнія гады: яго не стала ў кастрычніку 1953 года. Час прыспешвае выдаць асобнымі кнігамі працы Яўгена Хлябцэвіча па бібліятэказнаўстве, а таксама пакінутыя ім успаміны пра беларускіх пісьменнікаў і палітыкаў, якіх ён ведаў і з якімі сябраваў. І яшчэ. Адна з бібліятэк на Слонімшчыне і Бельшчыне павінна насіць імя нашага слыннага беларуса, якому сёлета ў жніўні споўнілася 130 гадоў з дня нараджэння, а ягонаму брату Уладзіміру Хлябцэвічу 3 верасня споўніцца 120 гадоў з дня нараджэння.

Сяргей ЧЫГРЫН

ISSN 0546-1960